НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 20 (857) 28 мая 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Сурoдзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

Жыве Беларусь

# Што павінна стаць беларускай нацыянальнай ідэяй?

На фота: зона гасціннасці ў апошнюю ноч чэмпіянату свету па хакеі.

Апытанне экспертаў. **Старонка 2.**

Сяргей Гудзілін

### Палітыка

## Пра Пуціна, пахаванне і Дашку Шманай

Непаказанае інтэрв'ю Лукашэнкі. **Старонка 3.**



### Украіна

## Пятро Парашэнка — чалавек, якому ўдалося ўсё

Новы прэзідэнт Украіны. **Старонка 4.**



### Гаспадарка

## Еўрапейцы багацеюць, беларусы бяднеюць

Сярэднія заробкі ў нас і ў суседзяў. **Старонка 5.**



### Культура

## «Вы пратэктарат!» — «Не, мы незалежная краіна»

«Прынцэса Манака» — у кінатэатрах. **Старонка 11.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Што павінна стаць беларускай нацыянальнай ідэяй?

У інтэрв'ю Ксеніі Сабчак на мінулым тыдні Лукашэнка прызнаўся, што «няма беларускай нацыянальнай ідэі. У мяне кніжак дзесяць ляжыць, я паставіў такую задачу — знайсці. Усё прапанаванае мне не спадабалася. Там ёсць і добрыя думкі, але не зачэпяць яны ўвесь народ», — сказаў ён.

«Наша Ніва» апытала больш і менш вядомых людзей: што павінна стаць беларускай ідэяй?



### Жыць як у Еўропе

Яна ўжо існуе. Гэта — «жыць як у Еўропе».

**Сцяпан Стурэйка, гісторык**

### Гэта бяскрайняй, разнароднай Расіі трэба ідэя, а Беларусі — нашто?

Ужо ў пытанні хаваецца адказ, што ж цяпер разумеецца пад «нацыянальнай ідэяй» у Беларусі — адчувальную патрэбу элітаў (рознага кшталту) стварыць нейкі аб'ядналыны комплекс уяўленняў, каб «знітаваць» насельніцтва краіны.

Варта адзначыць, што сам канцэпт «нацыянальнай ідэі» да нас перабраўся з Расіі, дзе існуюць вялікія праблемы з інтэграцыяй вялізнай тэрыторыі і шматстайнага насельніцтва. Плюс стварылася вялізная ідэйная пустка пасля краху камуністычнай ідэалогіі. Адсюль і паўстала мноства розных канструктаў, якімі стаў запаўняцца ідэйны вакуум. Вынік мы бачым па актуальным стане грамадскай свядомасці Расіі.

А Беларусь — адносна невялікая і досыць аднастайная краіна. І ці трэба нам яшчэ адна ўтопія, пераканаўчая для ўсіх? Ці ўяўляюць небяспеку нашы адрозненні ў каштоўнасцях, нашы розныя палітычныя перакананні і геапалітычныя арыентацыі?

Чым культываваць аднастайнасць, важней задумацца па крышталізацыю самастойнасці людзей і захаванне традыцый. Трэба працаваць над развіццём адукацыі, выпрацоўкай формаў салідарнасці, нормамі камунікацыі, уважлівасці да іншых і актыўнасці. Гэта значна больш будзе спрыяць развіццю Беларусі, чым стварэнне ідэалагічнага монстра.

**Аляксей Ластоўскі, сацыёлаг**

### Знайсці здрадніка радзіме і забіць

Знайсці здрадніка радзіме і забіць. Сімвал гэтага — «Пагоня». Гэта было апісана Багдановічам, Караткевічам у «Дзікім паляванні караля Стаха». На гэтым трымаецца наша нацыя і наша сіла. А той, хто не хоча бачыць гэтую ідэю нацыянальнай, альбо сцыць, альбо кажа, што яе няма.

**Адам Глобус, пісьменнік**

### Стаць членам еўрапейскай сям'і

Немагчыма «паставіць задачу знайсці нацыянальную ідэю» і каб паслухмяныя выканаўцы на замову напісалі «кніжак з дзесяць». Прадукт будзе штучны, нежывы.

Нацыянальная ідэя — гэта тое, што існуе не на паперы, а жыве, хай на зародкавым узроўні, у розумах і сэрцах вялікай колькасці прадстаўнікоў нацыі. Гэта жывая іскра.

Мы — нацыя і па гісторыі, і па культуры еўрапейская, а таму мусім прыкладаць усе намаганні, каб стаць паўнавартасным членам сям'і еўрапейскіх народаў. Менавіта ў еўрапейскай ідэі ёсць прываблівыя моманты для самых розных пластоў грамадства.

У Еўропе сёння, безумоўна, вышэйшая якасць жыцця ў параўнанні з «еўразійскім» светам. Там шануюцца нацыянальныя культуры і адначасова абараняюцца правы меншасцяў. Там ёсць пазітыўнае для кожнага.

Альтэрнатывы гэтай ідэі сёння для нас проста няма.

**Алесь Пашкевіч, гісторык**

### Прайшлі часы

Прайшлі часы нацыянальных ідэй.

**Захар Шлімакоў, арт-менеджар і дызайнер**

### Яна непатрэбная

Яна непатрэбная для дабрабыту нацыі.

**Раман Маладзяшын, пчаляр і гулец на біржах**

### Спажыванне — не ідэя

Проста Лукашэнка не прымае нацыянальную ідэю, звязаную з умацаваннем нацыянальнай культуры, заснаванай на нацыянальнай мове. Цягам свайго праўлення Лукашэнка гэтую нацыянальную ідэю душыў усяляк. Таму на парадак дня выходзяць субстытуты нацыянальнай ідэі. Яшчэ ў 2003 годзе публічна было заяўлена аб стварэнні новай дзяржаўнай ідэалогіі. Але яна чужая людзям. Бо ў ёй нацыдэя зводзілася да абагаўлення дзяржавы і яе кіраўніка.

Ёсць і трэцяя ідэя, якая цэментуе беларускае грамадства. Гэта ідэя нястрыманага спажывання. Гэта ідэя працуе. Ідэалагічна падкаваныя чыноўнікі на пытанне «Чаму ў нас няма свабоды?» адкажуць, што ў нас затое ёсць дабрабыт, заробкі растуць. Такая ідэалагема дэ-факта з'яўляецца легітымацыяй дыктатуры.

Але падмурак гэтыя крохкі, бо беларуская эканамічная мадэль нетрывалая, увесь дабрабыт залежыць ад Расіі, і Лукашэнка добра гэта разумее.

**Валер Булгакаў, рэдактар часопіса «ARCHE»**

### Дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава

Дзяржава і дзяржаўная ідэалогія — гэта адно, а нацыя і нацыянальная ідэя — гэта іншае. Вынікам мінулага дваццацігоддзя з'яўляецца тое, што сякая-такая дзяржава ў нас яшчэ ёсць, а вось палітычнай нацыі няма. І ўлада шмат папрацавала на гэта, б'ючы грамадзянскую супольнасць.

Няма нацыі — няма і нацыянальнай ідэі. Хоць вынаходзіць тую ідэю і не трэба. Дастаткова ўзяць Устаўную Грамату пра абвяшчэнне БНР і палажэнні Канстытуцыі 1994 года аб Беларусі як незалежнай дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржаве. Вось арыенціры.

**Анатоль Сідарэвіч, гісторык**

### Стварэнне дэмакратычнай дзяржавы

У пачатку 90-х, калі была дасягнутая незалежнасць Беларусі, мы паставілі на мэце стварэнне дэмакратычнай беларускай дзяржавы. Гэта была ідэя, вакол якой аб'ядналіся найлепшыя інтэлектуальныя сілы нацыі. Працэс ішоў вельмі няпроста, але ў 1994-м ён быў увогуле спынены: дзяржава ёсць, але яна не дэмакратычная, і ўлада ў ёй — не беларуская, а прарасійская.

Сёння галоўная мэта для беларусаў — захаванне нацыянальнай ідэнтычнасці, усведамленне каштоўнасці беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гісторыі.

Гарантам захавання нацыянальнай ідэнтычнасці можа і павінна выступаць дзяржава, бо пры іншым варыянце беларуская нацыя будзе знішчана. Будзе насельніцтва, але нацыя — знікне. Ну і, канешне, фактарам найбольшай небяспекі як для нацыянальнай ідэнтычнасці, гэтак і для беларускай незалежнасці быў і застаецца Лукашэнка.

**Сяргей Навумчык, рэдактар «Радыё Свабода»**

### Жыць як мага лепш

Я не магу казаць за ўсіх беларусаў. Магу сказаць пра сваю нацыянальную ідэю: жыць як мага лепш і ў кожны момант быць беларусам. Вось і ўся ідэя.

**Пётр Крышчык, баскетбаліст, таксіст**

### Нацыя са знакам якасці

Я б канцэнтраваўся вакол якасці і паспяховасці беларусаў. Нацыя са знакам якасці!

**Іван Шыла, студэнт**

### Прапаганда беларускай гісторыі

Толькі прапаганда сапраўднай гісторыі нашай краіны.

**Людвіка Кардзіс, бухгалтарка**

### Сама Беларусь

Беларускай нацыянальнай ідэяй можа быць уласна Беларусь: незалежная, самадастатковая, у цэнтры ўвагі якой знаходзіцца чалавек.

**Анатоль Лябедзька, палітык, старшыня АГП**

**Апытвалі Кірыла Хілько, Мікола Бугай**

## Сцісла

### Дні цвярозасці

31 мая і 12 чэрвеня — у дні правядзення апошніх званкоў і выпускных вечароў — у сталічных крамах не будзе прадавацца алкаголь, у тым ліку і піва.

### Папярэджанне за хакей

Мініінфармацыі вынесла папярэджанне газеце «Свободные новости плюс» за «нанясенне шкоды грамадскім інтарэсам і фармаванне негатыўнага стаўлення да чэмпіянату свету па хакеі». Газета напісала, што Расія не заявіла для ўдзелу ў чэмпіянаце ніводнага з хакеістаў, якія бралі ўдзел у Алімпіядзе. Рэдактар сцвярджае, што на момант падпісання нумару ў друк інфармацыя цалкам адпавядала рэчаіснасці, і толькі пасля Расія абнавіла склад.

### Шпіталізаваны пасля месяца зняволення і галадоўкі

Гамяльчук Юрый Рубцоў шпіталізаваны пасля вызвалення з гомельскага ізалятара часовага ўтрымання. Першае затрыманне адбылося падчас Чарнобыльскага шляху. Рубцоў быў апрануты ў футболку з надпісамі «Лукашэнка, сыходзь!» і «Арыштуйце мяне! Падстава? Я супраць Лукашэнкі». Спачатку яго пакаралі на 25 сутак, а пасля яшчэ на 5 сутак за нібыта лаянку пасля вызвалення. Усе гэтыя дні Рубцоў трымаў галадоўку.

### Немаўля выпала з 6-га паверха і засталося жывым

Паўтарагадовая дзяўчынка ў Горках выпала з акна, пакуль мама выйшла на кухню. Дзіця залезла на падаконнік, штурхнула маскітныя сеткі і звалілася ўніз. Дзяўчынку выратавала тое, што яна ляцела на маскітнай сетцы і ўпала ў траву, а не на асфальт.

**ЯМ**

## Апытанні на nn.by

### Як вы будзеце бавіць летні адпачынак?

| | | |
|---|---|---|
| Паеду на мора за мяжу | 289 | 33% |
| Буду працаваць | 184 | 20% |
| Паеду ў родавую вёску | 131 | 14% |
| Паеду за мяжу, але не на мора | 90 | 10% |
| Буду на дачы | 90 | 10% |
| Адпачынак будзе актыўны (раскопкі, будоўля, помач сваякам...) | 73 | 8% |
| Пайду ў паход | 48 | 5% |

Прагаласавала 905 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 21-27 мая

1 Лукашэнка пра развод: Даша (Шманай) не пачынала размову на гэтую тэму ВІДЭА

2 «Беларусь — краіна-прастытутка: братаецца, а нажыс за спіной трымае»

3 21-гадовая дзяўчына памерла пасля візіту да гінеколага ў «Ладэ»

4 Лукашэнка — Расіі: Збіранне земляў? Апрацуйце спачатку тыя, якія ёсць

5 Тэрарысты ў Данбасе заявілі, што расстралялі ўсіх палонных нацгвардзейцаў

6 Маладая сям'я: Кабаева і Пуцін (і Януковіч у шафе). ВІДЭА ад «Вячэрняга квартала»

7 Данецкая і Луганская «народныя рэспублікі» ўтварылі Наваросію

8 Лукашэнка ў шоку ад пытання пра сваё пахаванне ВІДЭА

9 Батальён «Данбас» трапіў у акружэнне, частка байцоў вырвалася

10 У Пружанах жорстка забілі, аблілі салляркай і падпалілі 24-гадовую дзяўчыну

Не ўсё ў жыцці апошні раз

## Падпіскі праз Рэдакцыю больш не будзе, падпісвайцеся праз пошту!

8 гадоў мы ажыццяўлялі падпіску праз Рэдакцыю. Мы завялі тую сістэму, калі нас выгналі з «Белпошты» і кіёскаў, і захоўвалі, нават калі нас вярнулі ў каталогі.

На сёння нам выгадней стала працаваць праз «Белпошту». Каб эфектыўна выкарыстоўваць кожную капейку, мы спыняем падпіску праз Рэдакцыю. Падпісацца зараз можна будзе толькі на пошце, на любой пошце.

Індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — **63125**) — **30 000** руб./месяц

Для прадпрыемстваў (індэкс — **631252**) — **36 000** руб./месяц

# Пра Пуціна, пахаванне і Дар'ю Шманай: непаказанае інтэрв’ю Лукашэнкі

**Гутарку з Ксеніяй Сабчак** не пусцілі ў беларускі эфір.

20 мая Аляксандр Лукашэнка даў інтэрв'ю расійскай журналістцы Ксеніі Сабчак. Гутарка працягвалася дзве гадзіны і з'явілася назаўтра ў эфіры расійскага тэлеканала «Дождь». Незалежныя сайты расхапалі інтэрв'ю на цытаты — настолькі яркія яны былі.

А вось беларускія тэлеканалы і дзяржаўныя СМІ сустрэчу не заўважылі. На сайце кіраўніка дзяржавы няма ніводнай згадкі пра размову з Сабчак, не кажучы пра стэнаграму. Хоць ранейшыя інтэрв'ю, напрыклад з Савікам Шустарам, выстаўленыя цалкам. Чаму? Кіраўніцтва прэс-службы Аляксандра Лукашэнкі на працягу двух дзён было недаступнае для каментароў.

### Пра механізм фальсіфікацый

**— Вы ў 2006 годзе казалі, што фальсіфікавалі выбары ў адваротны бок, каб Еўрасаюз так не рэагаваў.**

— Да выбараў мы ведалі вынік, плюс-мінус 2-3%. І атрымлівалася за 90%. [...] Гэта ж папахвае тым, як у Азіі галасуюць. Усё, дамовіліся, што 90% ужо ніяк. То бок, не будзем клікаць людзей, галасаваць дадаткова, яшчэ чагосьці. Розныя метады. Вось такая размова адбылася. Усе на дыбкі, хто за галасаванне адказвае: куды бюлетэні падзець? А куды хочаце. Развярнуўся і пайшоў.

**— А на наступных выбарах можна чакаць празрыстых скрынь, вэб-камер?**

— Не будзе ў нас ніякіх вэбкамер! Ну паставіце вы яе ў кут. Чалавек стаў і лічыць гэтыя галасы. Як трэба, так і палічыць... Я ўзначальваў камісію ў дзяцінстве, я тэхналогію ўсю ведаю. Палічылі, бюлетэні ўсё нармальна. Бюлетэні прыходзяць з участковых камісій у раённыя. Там што хочуць, тое і зробяць. І ў нас, і ў Расеі, і дзе заўгодна.

**Лукашэнка — Расіі: Збіранне земляў? Апрацуйце спачатку тыя, якія ў вас ёсць»**

**— Пасля Крыма ў Расіі акрэслілася палітыка збірання расійскіх земляў…**

— Ксюша, разбярыцеся вы з землямі, якія ў вас ёсць. Іх трэба апрацаваць, пасеяць там, атрымаць хлеб. А збіраць, далучаць… Да гэтага трэба асцярожна ставіцца.

**Ксенія Сабчак —**

расійская тэлевядоўца, грамадскі дзеяч. Дачка мэра Санкт-Пецярбурга Анатоля Сабчака.

Вядомая па рэаліці-шоу «Дом-2» (ТНТ), а таксама перадачах «Госдеп 2» і «Собчак живьем». Сябра Каардынацыйнай рады расійскай апазіцыі.

### Пра Дар’ю Шманай

**— Калі мы ўжо загаварылі пра дзяўчонак [перад гэтым гаворка ішла аб прастытутках — «НН»]. Цяпер уся Беларусь абмяркоўвае, што за сімпатычная дзяўчына з’явілася з вамі на хакеі.**

— Пра Дашку, так? Як яна магла з’явіцца? Гэтыя дзяўчаты — адна брунэтка, адна бландзінка — працуюць са мной два гады. Два гады асістуюць — узнагароджванні, кветкі і іншае.

Я ніколі ні на адным мерапрыемстве не сяджу з намыленай мордай сярод чыноўнікаў. Ніколі, гэта мой прынцып. Заўсёды дзяўчаткі... З аднаго боку сын маленькі, з другога — дзяўчынка, яшчэ нехта... У апошні раз, па-мойму, з Палінай [Шубай — «НН»] сядзелі, з вядучай. Даўно я яе ведаю, з 12 гадоў.

Што тычыцца Дашкі, вельмі прыстойная дзяўчына. Калі б у мяне такая была дзяўчына... Гэта вышэй за дах.

### Пра развод

— Я не хачу траўмаваць маці маіх дзяцей. Больш за тое, я, калі бываю дома, перш за ўсё еду да сваёй цешчы. Фёдараўна для мяне — сябра чалавека, як я ёй заўсёды кажу. Яна мяне бязмерна любіць. І любіла заўсёды. І я да яе езджу, нягледзячы на тое, што з дачкой яе мы не жывём, можа быць, 30 ці колькі гадоў. Гэта для мяне святы чалавек. Гэта пасля маці другі чалавек. Калі б не яна, я б прэзідэнтам не быў. Я, можа быць, нават і нармальным чалавекам не быў.

**— Афіцыйнага разводу не будзе?**

— Навошта гэта трэба? Каму гэта трэба? Скажыце, хто ад мяне патрабуе гэты развод?

**— Можа, малодшы сын?**

— Слухайце. Мой Коля сустракаўся з маёй Радзівонаўнай [афіцыйная жонка — «НН»] некалькі разоў. Ён у жыцці ніколі не сказаў.

**— Яго мама не супраць такіх сустрэч? Яна ніколі не пачынала размовы?**

— Не. Ніколі. Ніхто ніколі. І Даша таксама, пра якую вы кажаце, не пачынала гэтай размовы.





Дар’я Шманай і Паліна Шуба.



Сабчак падарыла Лукашэнку «Восень патрыярха» — раман Маркеса пра нязменнага дыктатара, які знаходзіўся ва ўладзе больш за 100 гадоў.

## Стоп...

Падчас выступаў Аляксандр Лукашэнка часцяком пускае пыл у вочы замежным журналістам, разлічваючы, што яны не ведаюць пра рэальную сітуацыю.

### Пра Плошчу

— Я асабіста даў каманду міністру ўнутраных спраў: у нас 400 чалавек лютых апазіцыянераў, яны ўсе тут! Я сказаў адсекчы іх. А ўвесь хвост — іх было паўтары тысячы — разбяжыцца.

Цяпер адсарціруйце гэтыя 400 чалавек. Засталося каля сотні, а ў турму — як вы кажаце, палітвязняў — шасцёра ці васьмёра трапіла.

Мы журналістаў папрасілі: дайце нам відэазапісы для следства. Не адбіралі, а жорстка папрасілі. Мы ўзялі, скапіявалі і ўсё ім вярнулі.

**Рэальнасць:** Дэманстрацыя, у якой бралі ўдзел дзясяткі тысяч чалавек, была жорстка разагнаная. Было затрымана больш за 700 грамадзянаў, больш за 50 чалавек атрымалі шматгадовыя тэрміны.Ператрусы прайшлі ў офісах грамадскіх арганізацый і незалежных СМІ, у тым ліку і ў «Нашай Ніве». Канфіскаваная тэхніка не вернутая дагэтуль.

### Аб прастытутках

**— Праўда, што перад чэмпіянатам свету зачысцілі цэнтр…**

— Няпраўда!

**— …горада ад прастытутак, бамжоў і заўзятых апазіцыянераў?**

— У нас няма прастытутак, якія прастытуткі? Вы мне пра дзяўчат такіх словаў не кажыце. Калі і ёсць людзі, якія гэтым займаюцца, гэта мы вінаваты. [...] Мы караем не тых дзяўчонак, якія трапілі пад уплыў кагосьці, а тых падонкаў, якія спрабуюць гандляваць людзьмі. І жонкі вялікіх начальнікаў трапілі за гэта ў турму. Але ніводная такая дзяўчына ў турме не сядзіць.

**Рэальнасць:** перад чэмпіянатам свету па хакеі было прэвентыўна асуджана «на суткі» каля 40 палітычных актывістаў. Паводле іх сведчанняў, ізалятары былі перапоўненыя прастытуткамі, таксама затрыманымі на час чэмпіянату.

### Пра Пуціна

На працягу гутаркі Лукашэнка перыядычна падшпільваў Уладзіміра Пуціна і апеляваў да яго.

**— Фільм «Хросны бацька» з’явіўся пры прэзідэнце Мядзведзеву.**

— Ну няважна, Пуцін непадалёк таксама быў ад гэтага, таму невядома, хто там.

* * *

Пра ўступленне ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Расія ўступіла раней за Беларусь.

**— Атрымліваецца, Уладзімір Уладзіміравіч недагаворваў?**

— Падманваў.

* * *

**— Чаму ў Беларусі няма ніводнага яркага палітыка? Нават у Расіі сталі з’яўляцца.**

— Якія ў вас палітыкі? Уладзімір Уладзіміравіч ды Дзмітрый Анатольевіч.

* * *

— А вы ведаеце прычыну разводу Уладзіміра Уладзіміравіча?

**— Ну ёсць версія, што гэта ў тым ліку і Людміла Аляксандраўна…**

— Ды можа, нехта іншы хацеў?

**— Вы лічыце, што нейкая дзяўчына на Пуціна націснула?**

— Можа, дзяўчына, можа, жанчына. Цалкам магчыма.

### Пра Бакіева

— Што тычыцца Бакіева, яго ўсе кінулі. Ён тады быў на ўцёках на поўдні Казахстана, з дзеткамі на руках і з жонкай. Я яму патэлефанаваў і кажу: «Курманбек, што ў цябе там?» І ён заплакаў.

Ён сказаў па імені: «Саша, ты мне ніколі не быў сябрам. Але я сёння фактычна ў лесе, я хаваюся, забяры хоць бы дзяцей, выратуй. І я адказаў, што забяру разам з сям’ёй. Я ішоў па вуліцы, размаўляў, і побач ішоў мой сыночак — такі ж, як і ягоны. І я гэта ўявіў... Вось якія ж сволачы, чаму кінулі чалавека? Я яго вывез, паслаў па яго самалёт.

Цяпер яго дзеці самыя прабеларускія. Яго дачка па беларускай мове выдатніца. Ведае лепш, чым усе нашы беларусы! Такая патрыятычная.

### Пра пахаванне

**— Вы калі-небудзь уяўлялі сваё пахаванне?**

— [Паўза. Не чакаў такога пытання.] Я ўсё больш схіляюся да таго, каб мяне пахавалі ў маёй вёсцы. Я хачу там. Гэта спакайнейшае месца для мяне. Я імкнуся і малодшага сына туды прывузці, яму таксама падабаецца па гэтай зямлі пахадзіць.

Падрыхтаваў Ягор Марціновіч

# Пятро Парашэнка — чалавек, якому ў жыцці ўдалося ўсё

**Ён стаў мільярдэрам і выгадаваў чатырох дзяцей. Зараз місія на мяжы немагчымага — прэзідэнт Украіны.**

Ужо ў першы дзень пасля выбараў, калі стала ясна, што Парашэнка перамагае, але яшчэ не быў скончаны падлік галасоў, украінскія сілавікі нанеслі жорсткі ўдар па баевіках у Данецку. Тыя сунуліся захапіць аэрапорт — і атрымалі па зубах. Украінцы разбамбілі іх з паветра.

Перад Пятром Парашэнкам стаіць суперскладаная задача — дзяржава без капейкі ў кішэні мусіць перамагчы ў вайне.

З 2 чэрвеня можа дадаццa кастлявая рука «Газпрома». Расія пагражае адключыць газ. Украіна адказала рэзка. «Мы гатовыя заплаціць хоць заўтра, — сказаў прэм'ер Яцанюк. — Але па справядлівай цане, якая была пры Януковічу, а не палітычнай цане, якую Масква выставіла пасля яго ўцёкаў». У адваротным выпадку Украіна гатовая звярнуцца ў міжнародны арбітраж у Стакгольме. Паводле правілаў, у часе разгляду арбітражнай заявы спыняць пастаўкі па кантракце нельга. Але Кіеў з дапамогай Брусэля разглядае і форс-мажорныя варыянты. Напрыклад, гатовы да пуску рэверсны газапровад са Славаччыны. Ён зможа даць да 8 мільярдаў кубоў газу за год. Яшчэ 18 мільярдаў Украіна здабывае сама. Гэтага з гора з бяды хопіць, каб абагрэць кватэры.



Старэйшы сын, 29-гадовы Аляксей, працуе намеснікам дырэктара ў прадуктовай кампаніі «Падолле». Мінулай восенню ён ажаніўся з аднагодкай Юліяй Аліханавай, якая адвучылася ў прэстыжнай французскай бізнэс-школе і працавала ў General Electric, PricewaterhouseCoopers і кансалтынгавай фірме McKinsey&Company.

Пятро Парашэнка раней у жыцці дасягаў толькі поспехаў. Ён ладзіў з усімі прэзідэнтамі. Пры Кучму ён быў сярод заснавальнікаў Партыі рэгіёнаў. З Ючшанкам ён увогуле кум: Віктар Першы хрысціў яговых дзяцей. Пры Януковічу ён нейкі час быў міністрам.

«З тэрарыстамі перамоваў быць не можа», — заявіў Парашэнка адразу пасля выбараў. Ён аддае перавагу размовам з рэгіянальнымі элітамі, дырэктарамі прадпрыемстваў, ён іх разумее, а яны — яго.

У той жа час ён у інтэрв'ю з легендарным карэспандэнтам газеты «Коммерсант» Андрэем Калеснікавым жорстка выказаўся на адрас Пуціна. «А хто даў вам, шаноўны Андрэю, або вам, Уладзімір Уладзіміравіч, права трактаваць нашу канстытуцыю? — адказаў ён на пытанне адносна таго, што Пуцін лічыць легітымным прэзідэнтам Януковіча. — Ваша меркаванне як грамадзяніна вашай краіны адносна таго, хто ў мяне павінен быць прэзідэнтам, мяне не цікавіць. Гэтак жа як грамадзяніна Расеі меркаванне якога-небудзь грамадзяніна Канады або Папуа Новай Гвінеі не цікавіць».

**Мікола Бугай**



Парашэнкі маюць чацвёра дзяцей. Прычым першага яны з жонкай нарадзілі маладымі, праз два гады пасля вяселля. А яшчэ траіх — нашмат пазней, праз 15 і 16 гадоў.



Марына Парашэнка — кардыёлаг, кандыдат медыцынскіх навук (дарэчы, аўтар першай у незалежнай Украіне дысертацыі). Яе бацька займаў пасаду намесніка міністра аховы здароўя УССР. У свой час адмовілася ад кар'еры дзеля сямейнага жыцця.






Жонка Пятра Парашэнкі старэйшая за яго на тры гады. Калі яны пажаніліся, яму было 18, а ёй — 21. Гэта была прыгожая пара. Ён майстар спорту па дзюдо, яна высокая студэнтка Медінстытута.

Парашэнка — сапраўдны бЕндэравец. Ён скончыў школу ў малдаўскім горадзе Бендэры, куды адправілі на працу ягонага бацьку.

Бацька Парашэнкі — Аляксей Парашэнка — Герой Украіны. Гэтае званне яму прысвоіў прэзідэнт Ючшанка за «распрацоўку перадавых тэхналогій сельгасвытворчасці». У свае 77 гадоў Аляксей Парашэнка ўзначальвае адно з іх сямейных прадпрыемстваў.

Парашэнка валодае цукровымі заводамі, кандытарскімі фабрыкамі «Рашэн», малочнымі заводамі, Луцкім аўтазаводам, карпарацыяй «Багдан», суднаверф'ю «Ленінская кузня», тэлеканалам «Пяты канал» ды іншымі актывамі. Пасля абрання прэзідэнтам ён заявіў аб гатоўнасці прадаць іх.

# Ракіроўкі ў КДБ: адыёзнага Ігара Кузняцова замяніў Іван Корж

Генерал-маёр Ігар Кузняцоў адпраўлены ў адстаўку з пасады начальніка ўстановы адукацыі «Інстытут нацыянальнай бяспекі РБ». Звольнены па ўзросце (сёлета яму споўнілася 60 гадоў).

Скандальную славу Ігар Кузняцоў заслужыў, калі ўзначальваў КДБ па Мінску і Мінскай вобласці. Менавіта з яго падачы былі заведзеныя крымінальныя справы супраць многіх маладафронтаўцаў.

Вось што згадвае пра Ігара Кузняцова былы начальнік КДБ Фрунзенскага раёна Мінска Аляксандр Баганёў:



«Прыдзіркі да мяне асабліва ўзмацніліся, калі ўпраўленне КДБ па Мінскай вобласці ўзначаліў Кузняцоў, таксама расіянін. Ён прайшоўся танкам па «Маладым фронце». І вельмі гэтым ганарыцца».

Зрэшты, замеціць у Інстытуце нацыянальнай бяспекі Кузняцова не менш адыёзны Іван Корж (на фота), які ўзначальваў Гомельскае, а пасля Гродзенскае КДБ. Гомельскі перыяд працы Івана Каржа запомніўся шматлікімі вярбоўкамі актывістаў апазіцыі. Ні да таго, ні пасля ў прэсе не з'яўлялася столькі інфармацыі.

Калі ў Гомельскай вобласці разгарэлася «паляўнічая справа» супраць міліцыянтаў, то былі праведзеныя ператрусы ў журналістак: Калінкінай, Коктыш, Радзінай, Халіп. Ператрусы праводзіліся ў справе «абразы Івана Каржа». Зрэшты, нічога не знайшлі.

У Гродне пры Каржу адбывалася цкаванне журналіста Андрэя Пачобута, які двойчы апынаўся ў турме па артыкуле «Абраза прэзідэнта».

Год таму ў Гродзенскай вобласці з наводкі КДБ экстрэмісцкім быў прызнаны фотаальбом «Беларусь Прэс-Фота». Пазней гэта будзе каштаваць ліцэнзіі выдавецтву «Логвінаў».

Кіраўніком КДБ па Гродзенскай вобласці прызначаны падпалкоўнік Аляксандр Цэрахаў. Разам з Каржом яны працавалі яшчэ ў Гомельскім КДБ.

**ЗП**

# Еўрапейцы багацеюць, беларусы бяднеюць

**Менш, чым у Беларусі, зарабляюць у пяці краінах кантынента.**

Паводле падлікаў Белстата, у красавіку 2014 года сярэдні заробак у краіне склаў $590. Шмат, але гэта не рэкорд. Мінулым летам ён перасягаў $620. Тады «Наша Ніва» параўноўвала (№32 ад 28 жніўня 2013) беларускія заробкі з грашыма, які атрымліваюць у суседніх краінах. Наколькі змянілася сітуацыя цяпер?

Мы зноў сабралі самыя свежыя звесткі аб заробках у 20 краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы — ад Расіі да Славеніі. Перадусім, гэта постсацыялістычныя краіны, якія ў пачатку 1990-х былі з Беларуссю на суседніх прыступках.

У краінах Заходняй і Паўночнай Еўропы атрымліваюць нашмат большыя грошы. У квітнеючай Швейцарыі сярэдні чысты заробак перавышае $5 тысяч!

### Брута і нета

Беларуская статыстыка заўжды называе «брудныя» заробкі, да сплаты падаткаў. У нашай краіне работнік сплачвае падаходны падатак (12%) і пакідае 1% заробку ў фондзе сацыяльнага забеспячэння. І ў кішэні застаецца $513. Астатняя падатковая нагрузка ўскладаецца на працадаўцу. Па такім самым прынцыпе дзейнічаюць Расія, Малдова і Украіна.

У многіх еўрапейскіх краінах абраная іншая схема: як мінімум пятую частку заробку даводзіцца аддаваць у выглядзе падаткаў. Напрыклад, жыхары Даніі вяртаюць каля 48% свайго даходу, нятанна абыходзіцца і шведская сацыяльная мадэль — 44,3%. Зрэшты, на руках у іх усё адно застаецца $3-4 тысячы на жыццё.

### Шпаркія статыстыкі

Беларуская статыстыка ледзь не самая хуткая на кантыненце. У нашай краіне ўжо апублікаваны памер заробкаў за красавік, у той час як чэхі, славакі і літоўцы толькі разабраліся з мінулым годам. Таму і ўніфікаваць дадзеныя, арыентуючыся па «адстаючых», складана. Таму ў табліцу зведзеныя лічбы за розны час. Аднак у большасці краін заробкі даволі стабільныя, яны не скачуць рэзка штомесяц.

### Узор — Славенія

У многіх краінах са спіса ходзіць еўра, у іншых — нацыянальная валюта прывязаная да агульнакантынентальнай. Аднак мы для зручнасці прадубліравалі лічбы і ў еўра, і ў далярах.



На карце — чысты заробак у далярах.

| | Краіна | Брудны заробак (еўра) | Чысты заробак (еўра) | Чысты заробак (даляры) | Прырост заробку ад лета 2013 | Актуальнасць дадзеных |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Славенія | 1510 | 997 | 1378 | +$76 | Сакавік 2014 |
| 2 | Эстонія | 966 | 773 | 1059 | +$83 | 1-ы квартал 2014 |
| 3 | Чэхія | 971 | 748 | 1018 | +$53 | 4-ы квартал 2013 |
| 4 | Харватыя | 1042 | 719 | 994 | +$47 | Сакавік 2014 |
| 5 | Польшча | 957 | 689 | 951 | +$100 | Красавік 2014 |
| 6 | Славакія | 887 | 692 | 942 | +$130 | 4-ы квартал 2013 |
| 7 | Расія | 647 | 563 | 777 | -$69 | Красавік 2014 |
| 8 | Латвія | 775 | 558 | 765 | +$107 | Снежань 2013 |
| 9 | Літва | 678 | 515 | 701 | +$51 | 4-ы квартал 2013 |
| 10 | Венгрыя | 780 | 507 | 701 | +$27 | Сакавік 2014 |
| 11 | Чарнагорыя | 720 | 474 | 655 | +$40 | Сакавік 2014 |
| 12 | Боснія | 660 | 422 | 584 | +$30 | Сакавік 2014 |
| 13 | Сербія | 546 | 396 | 547 | +$34 | Красавік 2014 |
| 14 | Румынія | 532 | 383 | 530 | +$56 | Сакавік 2014 |
| **15** | **Беларусь** | **428** | **372** | **514** | **-$22** | **Красавік 2014** |
| 16 | Македонія | 498 | 339 | 463 | +$11 | Люты 2014 |
| 17 | Балгарыя | 416 | 324 | 449 | +$33 | Сакавік 2014 |
| 18 | Албанія | 372 | 294 | 391 | +$98 | 2013 |
| 19 | Украіна | 248 | 203 | 281 | -$54 | Сакавік 2014 |
| 20 | Малдова | 202 | 174 | 237 | -$28 | Люты 2014 |

Як і год таму, найбольш багатай постсацыялістычнай краінай Еўропы з'яўляецца Славенія, якая падыходзіць да арыенціра ў 1000 еўра чыстымі. Калі раней толькі ў гэтай краіне зараблялі больш за $1000, то цяпер псіхалагічную мяжу пераадолелі яшчэ і эстонцы, і чэхі.

Эстонія ж трывала займае першае месца сярод краін былога СССР.

### Расія падае, астатнія растуць

Летась Расія і Польшча ішлі нага ў нагу. Палякі пабагацелі яшчэ на $100, а вось расейцы... Дэвальвацыя рубля прывяла да таго, што сярэдні заробак ва ўсходняга суседа паменеў з $850 да $780. У выніку наперад выйшла яшчэ і Славакія.

Наступныя змены ў рэйтынгу датычацца міжсабойчыка Літвы і Латвіі, а таксама Венгрыі. У прыбалтыйскіх краінах чысты сярэдні заробак нарэшце перавысіў $700, аднак для Латвіі ўказаная ў табліцы сума — завялікая. Яна атрымалася ў снежні за кошт навагодніх прэмій і відавочна «выбіваецца» сярод суседніх месяцаў.

У папярэдняй публікацыі «Наша Ніва» адзначала, што беларускай эканоміцы не хапае ўсяго $100, каб дагнаць Літву. Аднак лукашэнкаўская мадэль тады працавала на мяжы сваіх магчымасцяў. Як вынік, розніца з літоўскімі заробкамі цяпер дасягнула $190.

Беларусаў тым часам абагналі румыны і сербы. А баснійцы і чарнагорцы адарваліся яшчэ далей.

### Аўтсайдары

Ніжэйшы за белстатаўскі заробак у рэйтынгу маюць пяць краін. Эканомікі Македоніі і Балгарыі — найбяднейшай краіны Еўрасаюза — працягваюць свой павольны рост. Чаго не скажаш пра Албанію, у якой па выніках 2013 года зафіксавалі $390 проці $290 у 2012 годзе. Ці даваць дадзеным мясцовых статыстыкаў?

Напрыканцы спіса Украіна і Малдова. Дэвальвацыя грыўні апусціла заробкі ў паўднёвага суседа з $335 да $280. Згубілі частку грошай і малдаване. Яны па-ранейшаму на апошнім месцы.

**Ягор Марціновіч**

# Дай свініны!

**Лукашэнка патрабуе ад урада вырашыць праблему з мясам.**

Падчас наведвання калгаса «Шыпяны» ў Смалявіцкім раёне Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў запоўніць свінакомплексы да зімы. «Што за праблема? Гэта ж не быка выгадаваць, што яму трэба 18 месяцаў! Гэта на працягу года можна аднавіць пагалоўе. І мы пра гэта дамовіліся. Вы ж бачыце, што людзі бегаюць: дай свініны, дзяцей карміць сёння няма чым», — абурыўся ён.

Віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы патлумачыў, што сёння ёсць 330 тысяч свінаматак і да Новага года сітуацыя выправіцца. Аднак Лукашэнка застаўся незадаволены тэмпамі працы: «Вы не гатовыя! Вы мне казкі не расказвайце! — сказаў ён. — Бо вы не ходзіце на рынкі і не бачыце, як сёння ў цане вырасла свініна. І, павыразаўшы свіней, вы не падумалі пра тое, каб зрабіць дэзынфекцыю, адрамантаваць памяшканні і змясціць туды жывёлу».

**Цыт. БелТА**

**Колькасць свіней у сельскагаспадарчых арганізацыях**

Красавік 2013 — 3 343 300

Красавік 2014 — 2 659 000

Праз чуму пагалоўе зменшылася на 20%.

## Сцісла

### Падаражэў Velcom

З 27 мая для кліентаў павялічылася абаненцкая плата і кошт званкоў унутры краіны. У сярэднім тарыфы вырастуць на 9%.

### Рэкорды даляра

Амерыканская валюта працягвае даражэць ледзь не штодня. Крокамі па 10 рублёў курс дайшоў да 10070 рублёў. Ад пачатку года рубель дэвальваваўся на 6%.

### Імпарт шакаладу — па ліцэнзіі

Дзяржава бярэ пад кантроль імпарт макароны, шакаладу, цукерак з-за межаў Мытнага саюза. Разавыя ліцэнзіі на імпарт гэтых тавараў будзе выдаваць Мінгандлю па ўзгадненні з Мінсельгасхарчам і канцэрнам «Белдзяржхарчпрам». Дазвол дадуць толькі пры гарантыі мінімальных цэнаў.

**ЯМ**

# Самы наведвальны і самы п’яны чэмпіянат

25 мая скончыўся **чэмпіянат свету** па хакеі ў Мінску.

У фінальнай гульні Расія з лікам 5:2 перамагла зборную Фінляндыі. Беларусы дайшлі да чвэрцьфіналу, дзе дарогу ім перакрылі шведы (2:3). У выніку Беларусь заняла сёмы радок (пасля трох запар чатырнаццатых месцаў — відавочны крок наперад).

Пра неспартовыя вынікі першынства мы пагутарылі з шэфрэдактарам сайта by.tribuna.com Максімам Беразінскім.



Беларусы не змаглі зачапіць шведаў у чвэрцьфінале (2:3).

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: Вам чэмпіянат спадабаўся?**

**Максім Беразінскі:** Ён прайшоў лепш, чым я чакаў. Хоць я ад пачатку не быў скептычна да яго настроены. Фінальны матч атрымаўся вельмі бойкім. Антураж чэмпіянату быў здароўскі, было крута. Можна было смяяцца са словаў прэзідэнта, што мы зробім «найлепшы чэмпіянат у гісторыі», але правялі добра арганізаваны турнір з мінімальнай колькасцю касякоў. Мы ў рэдакцыі вельмі актыўна маніторылі твітары, інстаграмы гасцей чэмпіянату і заўважылі, што ніякага негатыву не было. У адрозненне ад той жа сочынскай Алімпіяды, дзе было шмат недарэчнасцяў. Заўзятары, думаю, не вельмі зразумелі, чаму ў нас «штосьці не так». Для іх умовы былі створаныя выдатныя.

**«НН»: Горад жыў хакеем?**

**МБ:** Я жыву на ўскрайку горада, езджу на працу на машыне, перасоўваюся па горадзе ад офіса да офіса, дык бачыў невялікую колькасць заўзятараў. Я думаю, што нельга казаць пра наплыў турыстаў. Ясна, што іх было болей, чым у звычайныя дні, але гэта не фантастычная лічба. Калі ж заўзятары збіраліся разам, ехалі на арэну ці глядзелі ў кавярні хакей, то атмасфера ажывала.

Увогуле, для Беларусі, дзе цікавасць да спорту мінімальная, — гэты прарыў. Дай Бог, каб гэты інтарэс да спорту не мінуў. У нейкі момант усе спартыўныя СМІ ўпёрліся ў столь па колькасці тых людзей, што зацікаўленыя спортам.



**Максім Беразінскі**

Нарадзіўся ў 1983-м у Мінску. Скончыў журфак БДУ. Шэфрэдактар сайта by.tribuna.com.

**«НН»: Слабыя склады зборных не папсавалі ўражанне?**

**МБ:** Мы аналізавалі, колькі чэмпіёнаў свету ва ўсіх зборных прыехала на чэмпіянат. Калі звычайна іх 60—70, то цяпер іх было каля 30. Але ж прыехалі Ярамір Ягр, Пека Рыне, Аляксандр Авечкін. Гэта не быў зусім убогі чэмпіянат, які нікому не цікавы. Затое пры такіх аслабленых складах у зборнай Беларусі было больш шанцаў на добры вынік, як сказаў Міхаіл Захараў. Зрэшты, хакей быў на чэмпіянаце добрага ўзроўню. Расія, пры розным да яе стаўленні, гуляла агрэсіўна, у сілавы хакей. І фіны раскачагарыліся напрыканцы. Нават пры лепшых складах гульні бываюць менш інтрыгоўнымі.

**«НН»: Гэты чэмпіянат увайшоў у гісторыю як самы наведвальны, тым не менш добрая частка квіткоў распаўсюджвалася задарма.**

**МБ:** Зноў беларуская рэчаіснасць. Нібыта ўсё зрабілі някепска, а людзі не маглі трапіць на трыбуны, калі нехта хадзіў бясплатна. Трэба разумець, што мы жывём у Беларусі і без такіх ідыёцкіх рашэнняў — нікуды. Патрабавалі, каб міліцыянты ўсміхаліся, надгляды былі больш лагодныя, а з білетамі — гэта такая беларуская фішка: а раптам ніхто не прыдзе, а мы зганьбімся, трэба падстрахавацца. Але мы б правялі добры чэмпіянат і без гэтых загонаў салдат, і распаўсюду білетаў па прадпрыемствах. На першай гульні Беларусі з ЗША было шмат пустых месцаў, пасля разабраліся — і болей такога не было.

**«НН»: «Савецкі спорт» назваў мінскі чэмпіянат «самым п’яным» за апошнія 20 гадоў.**

**МБ:** Я быў у 2007 годзе на чэмпіянаце ў Маскве. Там не было такіх арганізаваных месцаў для папоек. А тут усе ўмовы былі створаныя. Ну чаму б не выпіць? Тым больш людзі прыехалі адпачываць. Беларусы хуценька зарыентаваліся, зрабілі гэтыя «зоны гасціннасці» месцамі свайго прыжывання — пілі, гулялі. Гэта кажа аб тым, што ў Мінску ўсё скавана. У Мінску няма ніякай дзвіжухі, якая была б цікавая моладзі. А чэмпіянат падарыў такую магчымасць, то людзі туды рынулі. Не трэба абурацца п’янымі: падчас святкавання 3 Ліпеня на набярэжнай Свіслачы будзе прыкладна тое ж.

**«НН»: Кажуць, што спартовыя перамогі спрыяюць кансалідацыі нацыі. Згодныя?**

**МБ:** Мала што гэтаму так спрыяе, як спартовыя перамогі. Я не магу ўспомніць, што яшчэ ў беларусаў выклікае такія эмоцыі, калі яны крычаць, пішуць радасныя пасты ў Фэйсбуку. Мы вельмі стрыманыя, ведаем, што нікуды хадзіць не трэба, бо там, дзе болей за тры чалавекі, могуць арыштаваць. Калі адбываецца выбух эмоцый, то людзі ўспамінаюць, што можна павесяліцца, узгадваць, што мы беларусы. Пасля перамогі над Латвія я адчуваў пад’ём, што беларусы ганарацца сваёй камандай, адчуваюць гонар за краіну. Калі расейцы абрадаваліся, што заваявалі Крым, то ў нас нацыя больш міралюбівая, і нават вяртанне Смаленскай вобласці такой радасці не прынесла б. На кароткі перыяд спорт дапамагае аб’яднаць народ.

**«НН»: А што да людзей, якія хадзілі з намаляванымі на адной шчацэ беларускім дзяржаўным сцягам, а на другой — расейскім. Гэта нармальна?**

**МБ:** Ні для каго не сакрэт, што ў нас шмат людзей, што падтрымліваюць Расію. А на чэмпіянаце свету гэта праявілася найбольш ярка. Гэта частка нацыянальнай палітыкі, калі мы адштурхоўваем усё беларускае: забываем мову і гісторыю, не адзначаем угодкі Грунвальдскай бітвы, не ведаем, хто такі Міндоўг і Вітаўт. Гэта ж яшчэ з часоў СССР ідзе, што мы малодшыя браты — Белоруссия, Малороссия. Гэта адбіваецца. Дзяржава не прыкладае вялікіх намаганняў, каб мы адчувалі сябе самадастатковай краінай, пераставалі заўзець за, хай і суседскую, Расію. У такіх аб’ёмах, як мы бачылі ў Мінску, — гэта вельмі задзірліва, абуральна, і мне гэта не падабаецца.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



**Расія ў пяты раз у гісторыі выйграла чэмпіянат свету па хакеі (калі не ўлічваць перамогі СССР).**

**Хэнлан узначаліў зборную Швейцарыі**

Канадзец Глен Хэнлан трэніраваў беларускую нацыянальную каманду і вывеў яе ў чвэрцьфінал хатняга чэмпіянату свету. Цяпер ён перааезджае ў Швейцарыю. З іменем Хэнлана звязаныя найбольшыя поспехі беларускай хакейнай зборнай, а вось з іншымі камандамі яму не вельмі ўдаецца зладзіць гульню.

**Праз год згуляем у Астраве**

79-ы Чэмпіянат свету па хакеі пройдзе 1—17 мая 2015 у чэшскіх Празе і Астраве. Зборная Беларусі трапіла ў групу В. Вось яе склад: Фінляндыя, Расія, ЗША, Славакія, Нарвегія, Беларусь, Славенія, Данія.

**10 000**

Матчы мінскага чэмпіянату свету наведалі 640 тысяч гледачоў. Сярэдняя наведвальнасць — 10 тысяч чалавек за матч. Найбольш людзей назірала за фінальнай гульнёй Расія — Фінляндыя (15112 чалавек).

# П'яны бяспраўнік насмерць збіў інспектара ДАІ

«Яму падабалася служба — быў на сваім месцы».

24-гадовы супрацоўнік ДАІ Павел Груздзеў адправіўся на начное дзяжурства 20 мая. Здавалася б, сталіца спіць, на вуліцах — мінімум машын. Але дарога прынесла небяспеку.

Каля першай гадзіны ўначы 21 мая старшы лейтэнант Груздзеў працаваў на праспекце Незалежнасці — на ўездзе ў Мінск. Праверыў адно аўто, пайшоў да другога. І ў гэты момант яго проста змёў легкавік «Фіят». Міліцыянт памёр на месцы. А вось кіроўца нават не прытармазіў — з'ехаў. Праўда, далёка не ўцёк. Яго затрымалі ў дварах на праспекце. 28-гадовы жыхар пасёлка Калодзішчы быў моцна п'яны: 2,75 праміле алкаголю ў крыві.

«Падазраваны не меў права кіравання транспартнымі сродкамі. Акрамя таго, раней ён восем разоў судзімы за наўмысныя злачынствы, у тым ліку двойчы за кіраванне транспартнымі сродкамі ў стане алкагольнага ап'янення, — паведаміла прадстаўнік Следчага камітэта Юлія Ганчарова. — Справа знаходзіцца на асабістым кантролі ў старшыні СК Валянціна Шаева».

Інспектар Павел Груздзеў загінуў на дарозе.

Следчы камітэт апублікаваў кадры з відэарэгістратара аўто, да якога кіраваўся інспектар. Вось Груздзеў адпускае папярэдняга кіроўцу, разварочваецца, ідзе насустрач іншай машыне, і раптам яго збівае легкавік. Інспектар ішоў па першай паласе: перад і за ім стаялі машыны. Але п'яны кіроўца ўхітрыўся падбіць яго менавіта ў такой «кішэні».

Цяпер затрыманаму пагражае да сямі гадоў калоніі за парушэнне ПДР пад «мухай», што пацягнула па неасцярожнасці смерць. Праўда, следства не выключае магчымасці змены кваліфікацыі на больш цяжкае злачынства.

Павел Груздзеў адпрацаваў у мінскай міліцыі 4 гады. Яго знаёмы Ігар кажа, што «яму там падабалася — быў на сваім месцы». «Мы даволі даўно былі знаёмыя. І вучыліся разам — ужо тры гады завочна ў Акадэміі МУС. Ён да паступлення служыў у спецназе — часць 3214 ва Уручча. Думаю, ён нікому кепскага нічога не зрабіў. Колькі людзей ведаю, усім дапамагаў. І ніколі дрэнна пра яго ніхто не гаварыў. Бескарыслівым, добрым быў. Збіраўся ажаніцца. З дзяўчынай у іх усё было сур'ёзна».



Ігар не лічыць, што гэтую смерць можна лічыць выпадковай. «Мне здаецца, чалавек гэта наўмысна зрабіў... Я з працы таксама ехаў уначы за тыдзень-паўтара да здарэння, і Павел там жа мяне спыніў. Перагаварылі яшчэ — і я бачыў, як нёс службу з напарнікам. Не заўважыць яго мог толькі сляпы альбо калі з заплюшчанымі вачыма ехаў. Тым больш ён стаяў у першай паласе. Мне здаецца, што наўмысна чалавек зрабіў, мо каб яго не спынілі. Іншага не бачу — тры паласы былі свабодныя. А трэба было менавіта на другой ехаць усутыч...»

Пахавалі інспектара ў вёсцы Паланечка Баранавіцкага раёна.

**Сяргей Макарэвіч**

**Засталіся без машын**

ДАІ апублікавала прамежкавую статыстыку па п'яных кіроўцах. У студзені—красавіку 2014 такіх было затрымана больш за 8 тысяч, 711 з іх затрыманыя нецвярозымі паўторна на працягу года. 125 канфіскаваных транспартных сродкаў паступілі ў продаж. Сярод іх: 105 легкавых аўтамабіляў, тры грузавікі, чатыры трактары, чатыры мапеды, тры матацыклы, два матаблокі, адзін пагрузчык, адзін матаролер, адзін снегаход, адзін веласіпед з падвесным рухавіком.

# Маладую маму спалілі ў лесе

Расправу ўчыніў нехта са знаёмых?

24-гадовую Тацяну знайшлі забітай у лесе каля вёскі Шубічы ў Пружанскім раёне 16 мая. Цела было знявечане, абгарэлае. Напярэдадні маладая мама не вярнулася з працы. Сям'я занепакоілася — дома ж чакала малая дачушка...

Упраўленне Следчага камітэта па Брэсцкай вобласці завяло крымінальную справу за забойства, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю. За гэта прадугледжваецца самае суровае пакаранне — аж да расстрэлу. Праўда, пакуль затрыманых няма.

Знаёмыя дзяўчыны таксама абмяркоўваюць, хто мог учыніць такую расправу. Лічаць, што нехта са сваіх. Маўляў, вывезлі ж, відаць, спачатку ў лес, а пасля забілі. А паехаць з незнаёмцам дзяўчына не магла. Называюць нават імя таго, хто мог мець дачыненне да зверскага забойства. Але гэта толькі здагадкі. Цяпер усе кантакты дзяўчыны правяраюць следчыя.

Тацяну пахавалі 21 мая ў закрытай труне. «Надта шкада яе дачку. Усім, хто прыйшоў на пахаванне, расказвала, якая прыгожая шкатулка ў іх доме стаіць. У дзеда прасіла ключыкі, каб адамкнуць і паглядзець, што там», — прыводзіць словы суседкі забітай «Салідарнасць». Малое так і не ўсвядоміла, што мамы больш няма.

Тацяна выхоўвала дачку без мужа. «Яна замужам не была. Праз год пасля сканчэння вучобы зацяжарыла. А бацька дзіцяці адмовіўся ад іх. Так і гадавала дачку адна з маці, — расказала яе знаёмая Марына. — Мы з ёй вучыліся разам у вучылішчы ў Кобрыне: на кухара і сацыяльнага работніка. Яна была вясёлай і таварыскай. Скончылі ў 2008-м вучобу. Таня ў Пружанах працавала афіцыянткай».



Пружанскі РАУС шукае людзей, якія бачылі Тацяну Аўдзееву ўвечары 15 мая альбо ведаюць нешта пра асобу, што мелі дачыненне да яе смерці. Звяртацца на (029) 798-74-24.

**СМ**

**Гомельскія забойцы**

Вынеслі прысуд па справе забойства рэпетытара Марыны Аляксандравай з Гомеля. Трох удзельнікаў злачынства прызналі вінаватымі. Былы хлопец Марыны адправіцца за краты на 15 гадоў, муж з жонкай, якія дапамагалі яму, — на 13 гадоў кожны. Яны павінны выплаціць сям'і загінулай 800 мільёнаў рублёў маральнай і 52 мільёны матэрыяльнай кампенсацыі.

# Новая смерць у медцэнтры

Дзяўчына памерла пасля прыёму ў гінеколага.

Трагедыя здарылася на мінулым тыдні ў Брэсце. 21-гадовая Ірына звярнулася ў прыватную клініку «Ладэ». Ужо не першы раз назіралася там. А падчас чарговага прыёму, 19 мая, ёй стала кепска. З медцэнтра «хуткая» забрала дзяўчыну ў бальніцу. З дыягназам «анафілактычны шок на ўвядзенне лекавых прэпаратаў» яна трапіла ў рэанімацыю. Вядома, што ёй рабілі лячэбную маніпуляцыю па праверцы праходнасці маткавых труб. Дзяўчына паўтара года таму выйшла замуж і марыла пра дзяцей.

Анафілактычны шок — гэта рэакцыя імуннай сістэмы на алерген. Калі, як у выпадку з Ірай, гэта лекі, то такая рэакцыя ўзнікае толькі з другога разу іх патраплянне ў арганізм. І чалавек можа не ведаць пра алергію на іх. Алергенам можа быць нават звычайны анальгін.



У чалавека рэзка падае артэрыяльны ціск, мозгу не хапае крыві — і ён страчвае прытомнасць. Дапамогу трэба аказваць адразу ж. Унутр уводзіцца шэраг прэпаратаў. Праўда, не рэдкія выпадкі, калі анафілактычны шок прыводзіць да смерці. Як развівалася сітуацыя з Ірынай, высветляць следчыя пасля праверкі.

Між іншым, на мінулым тыдні касацыйную скаргу ў адносінах да супрацоўнікаў іншага прыватнага медцэнтра, «Экамедсэрвіса», суд пакінуў без зменаў (летась там пры пластычнай аперацыі ў кому ўпала Юлія Кубарава і пасля памерла ў бальніцы — медыкаў прызналі вінаватымі ў смерці). Анестэзіёлага асудзілі на чатыры гады калоніі-пасялення за неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў. Галоўнага інжынера на тры гады калоніі-пасялення за неналежнае выкананне службовых абавязкаў праз нядобрасумленныя і неахайныя адносіны да службы. Галоўнага доктара — на два гады абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы закрытага тыпу. «Экамедсэрвіс» павінен выплаціць бацькам дзяўчыны 1,07 мільярда рублёў.

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

**Прыкметы забойцы**

Міліцыя Гродзеншчыны звяртаецца па дапамогу ў справе забойства прадавачак крамы ў Лідзе ў верасні 2013. Па падазрэнні расшукваюць мужчыну 25—30 гадоў. Рост прыкладна 180—185 см, валасы светлыя, пры хадзе горбіцца, хударлявага целаскладу. Быў у чорнай куртцы з капюшонам, цёмных джынсах, зношаных спераду, светлых красоўках. Калі вы пазналі чалавека па апісанні альбо ведаеце нешта пра забойства, звярніцеся на: (01545) 52-07-80, (029) 350-01-02.

**Арыштаваны начальнік ДАІ**

Кіраўнік аўтаінспекцыі Пінска падазраецца ў перавышэнні паўнамоцтваў. Вядома, што ён даў падначаленаму незаконнае ўказанне ў лютым. Знаходзіцца пад вартай.

**Асудзілі за падслухоўванне**

Былую дырэктарку фабрыкі «Слодыч» Тацяну Селіх асудзілі на 3 гады калоніі. Яе прызналі вінаватай у праслухоўванні работнікаў прадпрыемства. Яна таксама пазбаўлена права займаць пасады, звязаныя з арганізацыйна-распарадчай дзейнасцю, тэрмінам на 5 гадоў.

**КМ**

# Беларуска сыграла галоўную ролю ў фільме, які стаў лаўрэатам Канскага фестывалю


Яня Новікава ў цэнтры.

Рэжысёр Міраслаў Слабашпіцкі атрымаў Гран-пры прэстыжнай праграмы «Тыдзень крытыкі» на 67-м Канскім кінафестывалі за свой дэбютны фільм «Племя», ролі ў якім сыгралі непрафесійныя глуханямыя акцёры. Прысутная на цырымоніі ўручэння прызоў выканаўца галоўнай ролі ў фільме, ураджэнка Гродна Яня Новікава, расплакалася.

Карціна заваявала яшчэ дзве прэміі — прыз «Адкрыццё» і прыз фундацыі Ган, які абяцае дапамогу ў дыстрыбуцыі фільма.

Фільм зняты выключна на мове жэстаў у традыцыях нямога кіно. Гэта драматычная гісторыя першага кахання маладога хлопца.

Галоўны герой фільма, Сяргей, трапляе ў спецыялізаваны інтэрнат для тых, хто слаба чуе, дзе існуе крымінальная арганізацыя — Племя. Ён спрабуе заняць сваё месца ў іерархіі школы і бярэ ўдзел у некалькіх рабаваннях. Калі Сяргей закохваецца ў Ганну, адну з наложніц кіраўніка, яму даводзіцца парушыць няпісаныя законы Племя.

**Радыё «Свабода»**

**Фотафакт**


**Маленькі янот і ласяня на мінулым тыдні пасяліліся ў мінскім заапарку.**

БЕЛТА

# Лідар гурту «Карозія металу» заклікаў Мядзведзева не забараняць «Ляпісаў»

Эпатажны расейскі рокер Сяргей «Павук» Троіцкі звярнуўся з лістом да прэм'ер-міністра РФ Дзмітрыя Мядзведзева. «На гэтым тыдні ўсю прагрэсіўную моладзь Расіі ўразіла вакханалія забарон рок-канцэртаў. У Сібіры быў арыштаваны наймаднейшы польскі гурт «Бегемот», а ў Ніжнім Ноўгарадзе забароненыя канцэрты беларускага гурту «Ляпіс Трубяцкой»!

Замуцілі ўсё гэта пекла мясцовыя партыі ЛДПР і КПРФ. Дзейнічалі ад імя міфічных праваслаўных актывістаў. Яны ўгледзелі ў тэатральных кліпах «Бегемота» нейкі незразумелы сатанізм. На гэтай падставе можна забараніць спектакль «Майстар і Маргарыта», — піша музыка сярод іншага.

**ЛМ**



# «Малінаўку» адчыняць у чэрвені

Станцыю метро «Малінаўка» плануецца адчыніць для пасажыраў у першай дэкадзе чэрвеня. Пра гэта паведаміў галоўны інжынер унітарнага прадпрыемства «Дырэкцыя па будаўніцтве Мінскага метрапалітэна» Аляксей Мурач.

Станцыя метро «Малінаўка» пабудавана на скрыжаванні праспекта Дзяржынскага і вуліцы Ясеніна побач з мікраёнамі Малінаўка і Брылевічы. Яна стане канцавым прыпынкам першай лініі Мінскага метрапалітэна на паўднёва-заходнім радыусе лініі. Даўжыня ўчастка падземных тунэляў ад суседняй станцыі «Пятроўшчына» да «Малінаўкі» складае 1,8 км.


**Камертон Сяргея Ваганава**

# Чэсны Валька

З нагоды чэмпіянату свету па хакеі абвастрыліся спрэчкі аб патрыятызме.

Зміцер Панкавец, калега па «Нашай Ніве», сцвярджае, што «спартовыя перамогі добра развіваюць у людзях патрыятызм. Усім падабаецца, калі твае суайчыннікі «дзяруць» немцаў, рускіх і фінаў. Хай гэта і патрыятызм «ніжэйшага гатунку», самае яго першаснае праяўленне...» Адказу на пытанне, што развіваюць у людзях спартовыя паразы, няма.

Сяргей Плыткевіч увенчвае сваю мудрагелістую канструкцыю ў падтрымку згаданага чэмпіянату сцверджаннем, што «нельга быць патрыётам і жадаць паразы сваёй краіне»...

Абодва прыхільнікі спартовага, так бы мовіць, патрыятызму, хочуць яны таго альбо не, адмаўляюць у патрыятызме, то бок у любові да радзімы, тым, хто абыякавы да спартовых перамог ці, крый Божа, «жадае паразы». Бо «дзерці» падабаецца *ўсім*, а «быць патрыётам і жадаць паразы» *нельга*.

Мне не падабаецца. Бо я памятаю, як «аддзерлі» Вальку.

Не ведаю, ці існуюць зараз так званыя дваровыя футбольныя каманды, але па маім падлеткавым узросце такая каманда існавала і ў нашым двары ля Заходняга моста. Як ён гуляў у футбол, наш Валька! Маленькі, хударлявы, ён бегаў па полі, як... Нават не ведаю, з чым параўнаць. Хай будзе — як ртуць. Бо нават не бегаў, а імгненна, ніхто і не заўважаў, паўставаў побач з мячом. Карацей, дзе мяч, там і Валька. Яны літаральна ліплі адзін да аднаго. У той гульні, дзе ўжо вырашаўся лёс міждваровага чэмпіянату, уся надзея была на Вальку, бо супернік, у асноўным з фабзайцаў, папярэднікаў пэтэвушнікаў, быў вельмі моцны, у іх нават трэнер быў. Да апошніх хвілін трымаўся лік 2:3 на іх карысць. Але Валька ўсё ж здолеў вырвацца адзін на адзін з варатаром, цыбатым хлопцам у доўгіх трусах, што ўсю гульню ані секунды не стаяў спакойна — падскокваў, вырабляў нейкія мудрагелістыя па... Але справа не ў гэтым. Справа ў дажджы, што праліўся напярэдадні. І варатар, які выбег насустрач, паслізнуўся, вароты засталіся пустымі. Валька прыпыніўся і... прабіў некуды ўбок. Потым апраўдваўся, што біць па пустых варотах у той сітуацыі было б нячэсна...

«Аддзерлі» яго, ці, па тагачаснай тэрміналогіі, адмяцелілі старэйшыя хлопцы, дваровыя заўзятары, у якіх з фабзайцамі былі свае складаныя адносіны. Валькавы бацькі нават выклікалі міліцыю. Скончылася тым, што ўчастковы, стары ўжо дзядзька з тоўстым жыватом, што выпіраў з-пад кіцеля, паляпаў Вальку па плячы і павучальна, каб і мы чулі, прамовіў: «Патрыётам трэба быць. Сёння каманду падвёў — заўтра радзіме штосьці дрэннае зробіш...» Пазней высветлілася, што хлопцы, якія мяцелілі Вальку, патлумачылі свае дзеянні тым, што ён зрабіў «непатрыятычны ўчынак». Абвінавачванне ў непатрыятызме было вельмі папулярным у Савецкім Саюзе. Чаго б ні тычылася. Ажно да дрэннай адзнакі ў школе...

## Толькі дыктатарскія ды аўтарытарныя рэжымы робяць са спорту палітыку на сваю карысць

Не, не разумею, якое дачыненне мае патрыятызм да таго, што беларускія хакеісты кагосьці там «надзяруць», а ўлада набудуе процьму хай-тэкаўскіх спартовых збудаванняў, якія, паводле Сяргея Плыткевіча, застануцца, будуць упрыгожваць беларускія гарады і пасля сыходу рэ жыму.

Цёзка можа запярэчыць: пра ўладу не гаварыў, гаварыў пра краіну. Але краіна лядовых палацаў не будуе і чэмпіянаты не зладжвае. Краіна — гэта тое, што на цудоўных здымках Плыткевіча. І яшчэ ў сэрцах. Што праўда, беларуская ўлада вельмі любіць атаясамліваць сябе не толькі з дзяржавай, але і з краінай. І так лёгка праглынуць гэтую справакаваную блытаніну!

Зрэшты, нічога новага. Толькі дыктатарскія ды аўтарытарныя рэжымы робяць са спорту палітыку на сваю карысць, гатуюць з яго — ці толькі з яго?! — атрутны прапагандысцкі булён.

Так было і ў нацысцкай Германіі.

Так было і ў камуністычным Савецкім Саюзе.

Добра памятаю, якой пажаданай для мяне, ва ўсялякім разе, і маіх сяброў, была параза савецкай зборнай у матчы з камандай Чэхаславакіі падчас хакейнага чэмпіянату 1969 года, праз колькі месяцаў пасля сумнавядомага здушэння «Пражскай вясны». Пры тым, што заўзелі за «нашых». Такі вось парадокс. Унутраны падзел паміж палітыкай і спортам. Падзел, якога асабіста я не вытрымаў. І ўрэшце рэшт згубіў усялякую цікавасць да спартовых спаборніцтваў.

У жыцці зусім няшмат з'яваў, вакол якіх ствараюцца тыя ці іншыя людскія еднасці. Спорт — не выключэнне. Але, папярэджваў у сваёй «Планеце людзей» Антуан дэ Сэнт-Экзюперы, «колькі адкрываецца фальшывых шляхоў».

Еднасць вакол так званага «спартовага патрыятызму» — фальшывая еднасць, еднасць на падставе «патрыятызму натоўпу». Бо спалучэнне спорту з палітыкай — гэта і ёсць той фальшывы шлях, што вядзе да ўзмацнення аўтарытарных рэжымаў і стымулюе іх агрэсіўнасць. Ці ж не сведчыць пра тое не толькі гістарычны, але і сучасны досвед?!

Патрыятызм асобы ў сваёй найвышэйшай праяве вымагае гатоўнасці за радзіму памерці.

Патрыятызм натоўпу, то бок патрыятызм «ніжэйшага гатунку», — забіць.

...А Валька знік з майго жыцця разам з дваровым футболам. З яго, упэўнены, мог стацца геніяльны футбаліст. Але не стаўся.

Я б ведаў.

# Як працуецца выхавацельцы ў дзіцячым садку

Наталля па адукацыі — выкладчыца тэатральных дысцыплін, ёй 28 гадоў, але жыццё склалася так, што цяпер яна працуе выхавацелькай у дзіцячым садку. Наталля вельмі прыгожая жанчына, з доўгімі цёмнымі валасамі, добрымі вачыма і ветлівай усмешкай. Размаўляе надзвычай эмацыйна і з болем у голасе расказвае пра тыя праблемы, з якімі вымушаны сутыкацца выхавацелі. Калі пра бюракратыю і бясконцыя зборы на рамонт ведае кожны з бацькоў, то пра адваротны бок жыцця самога выхавацеля задумваецца мала хто.

Я знайшла Наталлю праз адзін з допісаў у сацыяльнай сетцы. У ім яна дзялілася хваляваннямі і ўражаннямі ад здарэння, якое адбылося з ёй на працы. Адна з матуль агрэсіўна адрэагавала на тое, што яе сын размаўляе з выхавацелькай па-беларуску. Больш за тое, яна яшчэ актыўна настойвала на тым, што калгасная беларуская мова нікому ў жыцці не спатрэбіцца. Допіс хутка разышоўся па інтэрнэце і сабраў дзясяткі водгукаў.

**«Наша Ніва»: Наталля, з якой рэакцыяй людзей пасля твайго допісу ты сутыкалася?**

**Наталля:** Большасць мяне падтрымала і паставілася нават з нейкай павагай, але шмат людзей асуджалі. Аказваецца, я такая-рассякая, толькі раз на тыдзень па-беларуску размаўляю, і тое падчас заняткаў з дзецьмі. А гэта ж не так.

**«НН»: У цябе дзве вышэйшыя адукацыі, як атрымалася, што ты стала выхавацелем?**

**Н:** Абсалютна выпадкова лёс закінуў. Па першай адукацыі я арганізатарка тэатральнай дзейнасці, рэжысёр, выкладчык. Вучылася, праўда, на завочным, бо паступала я з дзіцячай пастаноўкай. Адзін з выкладчыкаў, які прымаў іспыт, сказаў, што я несур'ёзна падышла да паступлення. Цікава, калі прыйшла на іспыт на завочную форму, гэты ж самы выкладчык мяне не пазнаў, паставіў выдатную адзнаку і здзівіўся, як жа я не паступіла на дзённае. Я заўсёды хацела працаваць з дзеткамі і ад самага пачатку марыла займацца дзіцячымі пастаноўкамі. У выніку я вяла тэатральныя студыі, пазней трапіла ў школу, працавала таксама з дзецьмі-інвалідамі. Але пазней школа вырашыла, што ёй тэатральны гурток не патрэбны, і я засталася ні з чым. У выніку ў маім жыцці з'явіўся дзіцячы садок.

**«НН»: Раскажы, калі ласка, пра гісторыю з беларускай мовай больш падрабязна.**

**Н:** Аднойчы адна з матуль забірала сваё дзіця з садка і сказала яму пайсці развітацца з выхавацелькай. Той на радасцях падбег да мяне і пракрычаў: «Да пабачэння!» І тут гэтая матуля як дзёрне дзіцё, што я сама спужалася. Яна з такой агрэсіяй рыкнула: «Гэта што яшчэ такое? Як ты



размаўляеш?» Я нават спачатку падумала: можа, дзіцё мацюкнулася ці што. Але яна мяне не чула, а працягвала рычэць далей. Тады я пачала ветліва тлумачыць ёй, што мову ведаць нам неабходна, што гэта мова краіны, у якой мы жывем, што ў школьнай праграме яна ёсць. На што яна працягвала казаць: «Навошта мы такой лухтой забіваем дзецям галаву. Нікому гэтая калгасная мова не патрэбная». І далей у такім жа кірунку.

**«НН»: Улічваючы, што бацькі — прыклад для дзяцей, то сітуацыя кепская.**

**Н:** Вельмі крыўдна, што многія матулі на дзіцячых пляцоўках выхваляюцца адна перад адной, як яе маленькае дзіцё, якое ледзь размаўляе, ведае ўжо, як па-ангельску «коцік», але пры гэтым не ведае і слова па-беларуску.

**Дзяржава не можа забяспечыць нават туалетнай паперай**



**«НН»: Я так разумею: самім дзецям мова падабаецца і яны вывучаюць яе з ахвотай?**

**Н:** Дзеткам вельмі падабаюцца заняткі па беларускай мове. Вы проста не ўяўляеце, з якім хваляваннем яны чакаюць беларускіх гасцей — самаробных лялек, якіх я зрабіла сама. Кожныя заняткі выклікаюць у дзяцей вельмі шмат радасці і зацікаўленасці. Мова вучыцца не заўсёды лёгка, часам складана засвойваюцца беларускія гукі, але дзеткі яе так старанна вучаць.

**«НН»: Можа быць, бацькі не бачаць патрэбы і перспектывы ў беларускай мове? Пагадзіся, шмат хто лічыць, што беларуская мова карысці не прынясе, толькі ўскладніць штодзённую камунікацыю.**

**Н:** Яны проста не адчуваюць патрыятызму. Як можна з такой пагардай ставіцца да сваёй мовы? Уявіць такое ў іншай краіне наўрад ці магчыма. У іх сапраўды ёсць стэрэатып стаўлення да мовы, як да чагосьці калгаснага. Бо, па вялікім рахунку, яны чуюць толькі штучную мову па тэлебачанні ці на мерапрыемствах. Дзяржава, канечне ж, не можа ўзяць на сябе ўсю адказнасць. Але ёй жа створаны ўмовы такія, што беларуская мова ўспрымаецца часам даволі спрэчна і не мае статусу чагосьці патрэбнага. Не кажу ўжо пра імідж.

**«НН»: Вяртаючыся да дзіцячых садкоў, я заўважыла, што пры ўсіх праблемах ты з вялікай любоўю ставішся да дзяцей і сваёй працы.**

**Н:** Бо я вельмі люблю сваю працу. Я бясконца люблю дзетак і шмат чаму ў іх вучуся, спа-дзяюся, і яны ў мяне таксама. Гэта абсалютнае духоўнае задавальненне. Не атрымліваю толькі ніякага задавальнення матэрыяльнага. Да таго ж сістэма вельмі недасканалая, нас просяць рабіць тое, на што проста не хапае фізічна часу. У гэтай сістэме ты можаш ці займацца дзецьмі, ці рабіць тое, што ты рабіць не павінен — і гэта страшна прыгнятае. Я ішла працаваць з дзецьмі, а не месці вуліцы, цягаць пясок у пясочніцы і цягнуць з бацькоў грошы на цацкі.

**«НН»: Пытанне збору грошай на рамонты ды іншыя патрэбы стаіць востра амаль паўсюль. Чаму бацькі павінны часам нават па некалькі разоў на год нешта ўносіць, калі яны плацяць падаткі, а сістэма адукацыі ў нас лічыцца бясплатнай?**

**Н:** Яны нічога не павінны. І нават калі нехта з бацькоў напіша скаргу ў вышэйшыя органы, то ў нас паляцяць галовы. У першую ж чаргу атрымаю я, бо нібыта гэта патрэбна менавіта мне і гэта выключна маё жаданне. У ідэале я павінна ўгаварыць бацькоў так, каб гэта стала іх ініцыятывай. Бо ў садках сапраўды нічога няма.

**«НН»: Няўжо ў садках дэфіцыт рэчаў?**

**Н:** Так, ад цацак да мыйных сродкаў, туалетнай паперы ды сурвэтак.

**«НН»: Дзяржава не можа забяспечыць садкі туалетнай паперай?**

**Н:** Колькі сябе памятаю, мы заўсёды самі набывалі туалетную паперу. Грошай ці сапраўды выдаткоўваецца так мала, ці яны проста не даходзяць на садкоў, я не ведаю.

**«НН»: Дарэчы, а наколькі цяжка бывае з бацькамі? Сустракаюцца нейкія неадэкватныя?**

**Н:** Ёсць бацькі, якія песцяць дзетак, не могуць адарваць ад сябе. І калі яны прыводзяць дзетак у сад, то трэба больш супакойваць іх, а не дзяцей. Некаторыя не дазваляюць дзеткам бегаць ці крычаць. Але ж гэта дзеці, ім проста неабходна бегаць і крычаць. А ёсць бацькі, якія лічаць, што дзяцей павінна выхоўваць дзяржава, бо яны ж працуюць на гэтую дзяржаву. Часам можна пачуць такое, што бацькі нават не ведаюць, што рабіць з дзецьмі падчас нейкіх доўгіх выхадных.

**«НН»: Дык а навошта нараджаць дзяцей, калі ты не збіраешся займацца іх выхаваннем?**

**Н:** Так жа прынята, так трэба.

**«НН»: А калі не браць праблемы з бацькамі ды татальны недахоп грошай, у чым яшчэ цяжкасці?**

**Н:** Шмат папер, якія, пэўна, нікому не патрэбныя. Магчыма, гэта я такая неарганізаваная. Але калі выконваць усё тое, што мы павінны рабіць па рэжыме садка, то на паперы часу проста не застанецца. Амаль усе выхавацелі цягаюць гэтыя паперкі-планы дадому. Так ці інакш ты ўсё роўна будзеш кепскім, бо ці не выканаеш нешта па рэжыме ці не здасі ў час паперку.

**НН: Гэтыя паперы сапраўды камусьці патрэбныя?**

**Н:** Камусьці ж на пачатку года патрэбна ведаць, колькі ў групе бацькоў-вайскоўцаў, інтэлігенцыі, работнікаў заводаў ды іншых. Але што тычыцца планаў, то без іх, канечне, складана арганізаваць працу. Кепска тое, што паперы становяцца больш істотнымі за працу з чалавекам.

**НН: Не было крыўдна, што, маючы дзве вышэйшыя адукацыі, ты працуеш выхавацелькай, бярэш працу дадому, а некаторыя бацькі ставяцца да вас як да абслугі. І за гэтую працу ты атрымліваеш 300—350 даляраў?**

**Н:** Часам вельмі крыўдна. Хочацца атрымліваць больш. Таму ў сям'і мы вырашылі, што я павінна сысці з гэтай працы. Мы здымаем кватэру, але з такім раскладам мы ніколі не зможам пабудаваць нешта сваё. Трэба дзесьці ў іншым месцы зарабляць грошы. Нягледзячы на тое, што я бязмерна люблю сваю працу, мне прыйдзецца сысці.

Я даю дзецям столькі, колькі магу даць. Я хвалююся за кожнага. Мы пачынаем ў групе дзень з абдымкаў, мы дзелімся ўсімі праблемамі. Дзеці шкадуюць мяне і адчуваюць любы мой настрой.

**«НН»: Як ты лічыш, ці магчыма на дзяржаўным узроўні выправіць агульнае стаўленне да настаўнікаў і выхавацеляў? Бо, па сутнасці, не без дзяржаўнага ўдзелу ідзе абясцэньванне статуса настаўніка.**

**Н:** Мне нават цяжка адказаць на гэтае пытанне. У нас з сябрамі некалі была спрэчка наконт таго, ці варта нам падвышаць заробкі. І жартам нехта сказаў, што нам няма за што плаціць, бо мы нічога для дзяржавы не робім і прыбытку ад нас ніякага. На што я сказала, што мы даем магчымасць іншым людзям зарабляць грошы.

**«НН»: А як у дзіцячых садках з кадрамі?**

**Н:** І выхавацеляў, і садкоў у Мінску страшэнна не хапае.

**«НН»: І ніхто не хоча нешта змяняць?**

**Н:** Людзі запалоханыя. Людзі абураюцца на кухні, сярод калег ці на дзіцячых пляцоўках, але ніхто не хоча нешта змяняць. Нібыта сам факт нязгоды ўжо патрабуе асуджэння і ёсць чымсьці крамольным. Калі ж сутыкаешся з момантам, падчас якога ёсць магчымасць нешта выказаць, дык яны маўчаць. Калі хтосьці і кажа нешта супраць, то моладзь. Але яны ж гэтую моладзь потым і асуджаюць, што яна вылузваецца і ўсім незадаволеная. Так і пруць гэтыя торбы з працай дадому. Сядзяць і моўчкі робяць. А з чаго пачаць нешта змяняць, я не ведаю.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

# Самая прагрэсіўная тэхналогія асвятлення

Папулярная тэорыя кажа, што ў 20-х гадах XX стагоддзя вытворцы электрычных лямпаў дамовіліся абмежаваць тэрмін службы бытавых лямпаў напальвання тысячай гадзін, каб забяспечыць пастаянныя продажы.

Тэорыя застаецца непацверджанай, але будучыні ў лямпачак напальвання няма — гэта факт. Лямпы напальвання яшчэ вельмі папулярныя ў Беларусі з яе адносна таннай электрычнасцю. Насамрэч, гэтая прылада ператварае ў бачнае святло ажно 5% спажытай энергіі. Астатнія 95% — інфрачырвонае, ці цеплавое, выпраменьванне. Нездарма многія краіны (Беларусь не ў іх ліку) абвесцілі вайну такім лямпам і часткова ці цалкам забаранілі іх ужыванне.



Энергаашчадныя люмінесцэнтныя лямпы аказаліся не лепшай альтэрнатывай. Яны працуюць даўжэй за лямпы напальвання і спажываюць менш электрычнасці. На жаль, люмінесцэнтныя лямпы нясуць пагрозу для здароўя чалавека, бо ў іх утрымліваецца надзвычай атрутная ртуць. Таму раструшчаная люмінесцэнтная лямпа — зусім не да шчасця, а правільна ўтылізаваць такую лямпу ў Беларусі — сапраўдная праблема.

Аднак існуе тып бытавых лямпачак, у якіх амаль няма недахопаў. Гэта святлодыёдныя лямпы.

Крыніцай святла ў святлодыёднай лямпе з'яўляецца адзін, але часцей некалькі, святлодыёдаў. Святлодыёдныя лямпы адрозніваюцца ад лямпаў напальвання і люмінесцэнтных лямпаў надзвычай малым спажываннем электраэнергіі. Кожны ват святлодыёднай лямпы прыблізна эквівалентны 10 ватам лямпы напальвання. Такім чынам, шасціватная лямпачка на святлодыёдах замяняе 60-ватную лямпу напальвання.

Моцным бокам святлодыёдных лямпаў ёсць не толькі высокая светлавая аддача, але і тэрмін службы. Калі лямпачка напальвання «гарыць» каля 1000 гадзін, люмінесцэнтная лямпачка — да 15 тысячаў гадзін, дык тэрмін службы святлодыёдаў у бытавой лямпачцы складае каля 35—50 тысячаў гадзін. Тэарэтычна, адной святлодыёднай лямпы, запаленай цягам 6 гадзін у дзень, хопіць на 16—22 гады.

Дадатковым плюсам бытавых святлодыёдных лямпачак перад люмінесцэнтнымі з'яўляецца больш плаўны і прыемны воку каляровы спектр святла.

Колькі эканоміць святлодыёд?

Адна 60-ватная лямпа напальвання, уключаная 6 гадзін у дзень, расходуе 11 кВт·г. Пры цане 1 кВт·г 746 рублёў (для дамоў без электрапліт і без ужывання павелічальнага каэфіцыента) штомесяц такая лямпа абыходзіцца ў 8,2 тыс. руб. Год эксплуатацыі лямпы напальвання каштуе 98,4 тыс. руб.

Шасцігадзінная штодзённая эксплуатацыя 7-ватнай святлодыёднай лямпачкі каштуе 670 рублёў у месяц і 11,6 тыс. руб у год. Таму такая лямпачка акупіцца ўсяго за год.

Цана на святлодыёдныя лямпы залежыць ад магутнасці, вытворцы, тэрміну гарантыі. Аднак самая папулярная прапанова — 6-7-ватныя аналагі 60-ватных лямпачак напальвання. Такую лямпачку можна набыць прыкладна за 90 тысячаў рублёў. Таму пакупнікі аддаюць перавагу больш танным і таксама даволі эканамічным люмінесцэнтным лямпачкам ці лямпам напальвання. Аднак трэба заўважыць, што святлодыёдная лямпа хутчэй за ўсё перажыве яшчэ не адно павышэнне тарыфаў.

**Кірыла Хілько**

# Гісторыя Наташы: **Невідушчая дзяўчына вучыцца на юрфаку БДУ**

Наталля Кавалевіч ад нараджэння нічога не бачыць. У яе ДЦП ды шэраг іншых дыягназаў. Нягледзячы на гэта, дзяўчына скончыла гістфак з чырвоным дыпломам, зараз вучыцца на юрыста. Марыць пра добрую працу і сям'ю.

### Рэальна глядзець на рэчы

Наталля Кавалевіч — студэнтка юрыдычнага факультэта БДУ. Сама яна з Брэста, там у яе маці і брат.

Наташа з'явілася на свет з букетам дыягназаў: атрафія зрокавых нерваў (цалкам сляпая), цэрэбральны параліч, тазабедраны вывіх. Прычына, хутчэй за ўсё, у траўме, якую перанесла маці падчас цяжарнасці.

Наташа скончыла спецыялізаваную школу-інтэрнат для інвалідаў па зроку ў Гродне. Пасля школы большасць аднакласнікаў паступала ў медкаледж на масажыста. А Наташа захацела стаць гісторыкам. «Які гістфак, трэба рэальна глядзець на рэчы!» — адгаворвалі ў школе.

Маці Галіна Анатолеўна падтрымала дачку. Вадзіла на падрыхтоўчыя курсы, плаціла за рэпетытараў. Так дзяўчына, якая не бачыць, стала студэнткай гістфака Брэсцкага ўніверсітэта.

«Аднакурснікі спачатку пабойваліся. Потым, калі стала адказваць, пацягнуліся, пасябравалі. Добрая група была...», — узгадвае Наташа вучобу ў Брэсце.

Потым пачалася практыка ў школе. Наташы падабалася працаваць з дзецьмі. Яна прыдумала сістэму праверкі ведаў з улікам сваіх асаблівасцяў. Разлічвала, што яе пакінуць у школе. Але маладому спецыялісту з чырвоным дыпломам месца там не знайшлося.

### У пошуках лепшай долі

Наташу размеркавалі ў дзіцячую бальніцу, паабяцаўшы даць пасля гадзіны ў школе.

«Я тры гады спрабавала дабіцца месца ў школе. Прасіла, каб далі хаця б надомнікаў. Я разумела, што губляю вопыт, ні прафесіяналізму не набываю, ні грошай не зарабляю», — узгадвае дзяўчына.

Неяк, лежачы ў бальніцы, пазнаёмілася з жанчынай. У той дачка-інвалід, якая працуе на спецыялізаваным прадпрыемстве. Заробак такі, што належна дагледзець маці, купляць тыя ж памперсы, было праблемна.

Тады Наташа ўсур'ёз задумалася, што ў жыцці трэба нешта мяняць. Вырашыла атрымаць другую адукацыю — юрыдычную, каб знайсці лепшую працу. Пачала ўпотайкі, не кажучы маці, займацца з рэпетытарам па матэматыцы. Урэшце расказала і пераканала, што гэта варта. З болем у сэрцы маці адпусціла сляпую дачку на вучобу ў Мінск.

### Як пражыць студэнтцы на 1,6 мільёна?



Цяпер Наташа, студэнткатрэцякурсніца, здае залікі, рыхтуецца да экзаменаў. Але перспектывы перайсці на чацвёрты курс пакуль што цьмяныя.

Усё залежыць ад таго, ці зможа яе маці, пенсіянерка, далей аплачваць вучобу, 18 мільёнаў за год.

Наташа жыве ў інтэрнаце БДУ, што на Пятроўшчыне. Сама дабіраецца ва ўніверсітэт на метро, ходзіць у краму, банк, на пошту.

Як інвалід 1-й групы, яна атрымлівае пенсію — 1,6 мільёна рублёў у месяц. У асноўным з яе і жыве. Часам нейкія сумы (500—800 тысяч) пералічваюць універсітэт ці арганізацыя інвалідаў.

З пенсіі выплачвае крэдыт за нэтбук і за рэпетытара па англійскай мове (каля 600 тысяч). Заняткі з ім даўно скончыліся, а крэдыт плаціць яшчэ з год. Плюс тэлефон, інтэрнэт, паслугі пральні, цырульня, манікюр. Усё тое, што трэба звычайнай маладой жанчыне, з папраўкай на яе асаблівасці (не бачыць, дрэнна ходзіць і паўнацэнна можа працаваць толькі правай рукой). Калі ў Брэсце побач з ёй была маці, то тут усё даводзіцца рабіць самой.

Рэшту грошай траціць на ежу. Што купляе? Гледзячы, колькі застанецца:

«Мне раяць пахудзець, і я старалася купляць садавіну, мяса. Але апошнім часам не хапае. Таму бяру бульбу, макароны. А кілаграмы ад гэтага, самі ведаеце, не меншаюць», — кажа Наташа з сумнай усмешкай.

«Бывае, калі доўга без грошай сядзець, прыходзіш у краму і «зрываешся» — набываеш нейкую фігню, кшталту шакаладкі. А потым ужо цягнеш, як можаш».

### Мару пра сям'ю, а не — хаця б дзіця нарадзіць

Сёлета Наташы спаўняецца 30 гадоў. Яна марыць давучыцца, знайсці добрую працу, стварыць сям'ю. Пажадана поўную, а не — хоць бы дзіця нарадзіць. Спрабавала адшукаць шчасце на сайтах знаёмстваў, ды няўдала.

«Калі не скончу юрфак, калі не складзецца маё працоўнае, асабістае жыццё, то буду думаць, каб з'ехаць адсюль», — прызнаецца дзяўчына. Яна расказвае гісторыі сваіх знаёмых, таксама невідушчых. Адзін — дырэктар фірмы таксі ў ЗША, другі — выкладае фізіку ў нямецкім універсітэце.

«Там стаўленне лепшае. Ты нікога не пужаеш, не здзіўляеш», — кажа Наташа.

Змяніць стаўленне да інвалідаў у Беларусі — яшчэ адна, бадай што, самая недасяжная яе мара: «Трэба не спрабаваць пасадзіць людзей на дамапогі, а даць магчымасць ім самім на сябе зарабляць і самім сябе забяспечыць. Канешне, добра што ёсць такія прадпрыемствы, як «Святлопрыбор», але я кажу пра людзей, якія хочуць працаваць у розных сферах.

А пачынаць трэба з інтэграцыі дзяцей-інвалідаў. Яны — такія ж, як і ўсе. Толькі для таго, каб чагосьці дабіцца, ім трэба прыкласці крыху больш намаганняў».

**Аксана Рудовіч**

# «Вы пратэктарат!» — «Не, мы незалежная краіна»

**«Прынцэса Манака»** — гэтым фільмам адкрываўся сёлетні Канскі кінафестываль.

Адначасова з Канамі стужку можна пабачыць у беларускіх кінатэатрах. Рэжысёр Аліўе Даан зняў біяграфічны фільм пра паспяховую галівудскую актрысу Грэйс Келі, якая выйшла замуж за князя Манака Рэнье III.

Аўстралійская зорка Ніколь Кідман у ролі Грэйс Келі выглядае бездакорна. Хоць аператары часам і злоўжывалі яе буйнымі планамі. Цім Рот, які сыграў Рэнье, прызнаваўся, што бязвусаму чалавеку цяжка сыграць вусатага. Але яму ўдалося.

Дарэчы, з перакладам назвы фільма на расейскую мову перамудрылі. У арыгінале ён называецца Grace of Monaco (штосьці кшталту «Грэйс Манакская), парасейску ж аднекуль узялася «прынцэса». Хоць Грэйс Келі была хутчэй княгіняй, бо нават замуж выходзіла не за прынца, а за паўнавартаснага манарха, князя Манака.

Зрэшты, трэба разумець, што ўся «гістарычнасць» фільма вельмі ўмоўная, і шмат што было прыдумана ці дадумана аўтарамі.

Напрыклад, яны даводзяць, што жыццё дзяўчынкі, якая адшукала свайго прынца, зусім не робіцца бясхмарным. А дзеля кахання і шчасця даводзіцца ўў нечым саступаць, пераўзыходзіць сябе, удаскапальвацца і быць бязмежна адданай каханаму чалавеку. Гэта калі казаць пра агульначалавечы змест стужкі.

Разам з тым нечакана вострa і актуальна для Беларусі ў фільме загучалі палітычныя ноткі. Манака — карлікавая дзяржава (2 квадратныя кіламетры) на ўзбярэжжы Лігурыйскага мора, на так званай Рыўеры. Ад канца XIII стагоддзя Манака вядзе сваю незалежную гісторыю. Хоць спробы далучыць гэтую тэрыторыю рабілі і французы, і італьянцы. Але праз нейкі час незалежнасць Манака аднаўлялася.

1962 год (калі разгортваюцца падзеі фільма) стаў адным з найбольш складаных для Манака. Многія заможныя французы пераводзяць свае актывы ў княства, дзе выгаднейшая для іх падатковая сістэма. Прэзідэнт Францыі Шарль дэ Голь, скеміўшы, што грошы ўцякаюць з краіны, ставіць перад Манака ўльтыматум аб увядзенні ў краіне падаходнага падатку. У адваротным выпадку абяцае блакаду краіны — аж да ліквідацыі незалежнасці. Дэ Голь абяцаў «задушыць гэтае княства».

Манака не мела войска, каб бараніцца (гэта адзіная краіна ў свеце, дзе вайсковы аркестр больш за само войска). Рэнье III у фільме паўстае ва ўсім трагізме чалавека, які рызыкуе страціць Радзіму. Такім пачуццём, напрыклад, прасякнутыя ўспаміны Міхала Клеафаса Агінскага ці Штэфана Цвейга.

Кажуць, што княская сям'я Грымальдзі (ніхто з іх на прэм'еру не прыйшоў) пакрыўдзілася на тое, што Рэнье паказаны чалавекам слабахарактарным, лёгка маніпуляваным, нервовым, з заўсёднай цыгарэтай у зубах. Часткова — гэта праўда. Але ж князь, хоць і многага баіцца, дазваляе сабе заляпіць поўху пасланцу Шарля дэ Голя (вядома, у сапраўднасці такога не было). А ў ягоных вуснах ўкладваюцца фразы кшталту: «Вы — пратэктарат Францыі». — «Не, мы незалежная краіна», «Таталітарызм з'яўляецца там, дзе маўчыць грамадзянская супольнасць», «Гэта не перамовы — гэта вымагальніцтва».

Рэнье III пашанцавала болей за Агінскага і Цвейга: сваю радзіму ён не згубіў. У фільме кажуць, што праз каханне Грэйс Келі. З гістарычнага гледзішча — не самая відавочная версія. Але, мабыць, і яна мае права на існаванне.

**Зміцер Панкавец**



Ніколь Кідман бездакорна сыграла Грэйс Келі.

## Пошта рэдакцыі

Ці праўда, што Генадзь Бураўкін моцна хварэе?
**Леаніла Ванькові̌ч, Мінск**

Так, на жаль, Генадзь Мікалаевіч цяпер нездаровы, паведамляюць сябры-пісьменнікі. Давайце разам пажадаем яму душэўнае моцы і трывання. Хто збіраўся яму патэлефанаваць – зычце здароўя, хто верыць у Бога – маліцеся за яго.

**Рэдакцыя**




Генадзь Бураўкін.

### Малітва

Мы здалёку ўбачылі свабоду
І яшчэ не вырваліся з пут...
Божа,
Не дабаў майму народу
Пошасці,
Няпраўды
І пакут.

У чужым нялюдскім землятрусе
Хіба ў нечым мелі мы віну?..
Божа,
Адвядзі ад Беларусі
Здраду,
Вераломства
І вайну.

Смутнаю парою нелюдзімай,
Калі ўсё вакол ідзе на злом,
Божа,
Захіні маю Радзіму
Мудрасцю,
Спакоем,
І цяплом.

## Рублеўская цяпер піша іначай

**На атрыманне ўпрэміі Гедройца** прэтэндуе зборнік «Ночы на Плябанскіх млынах».

Без удзелу Людмілы Рублеўскай, пісьменніцы і літаратурнай аглядальніцы газеты «Беларусь сегодня», не абыходзіцца ніводная прэмія імя Гедройца. У 2012 Рублеўская ўваходзіла ў журы. Летась яе раман «Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега» трапіў у шорт-ліст. Кніга «Ночы на Плябанскіх млынах», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», сёлета ўжо, як мінімум, паўтарыла леташні поспех.

Гэтая кніга на 500 старонак — выбранае Рублеўскай. У «Ночы...» можна знайсці невялікія аповеды («Гісторыі пані») з элементамі гумару, асабістых прыгодаў і настальгіі, ёсць там і «шляхецкія апавяданні», за якія Рублеўскую называюць прадаўжальніцай справы Уладзіміра Караткевіча, ёсць і гатычны раман «Скокі смерці», у цэнтры якога — вобраз рамантычнай дзяўчкі-патрыёткі з неўладкаваным асабістым жыццём.

Рамантызм, закручаны сюжэт і лёгкая іранічнасць уласцівыя ўсім гэтым творам.

«Ночы на Плябанскіх млынах» прэзентуюць ключавы перыяд у біяграфіі пісьменніцы: з сярэдзіны 1990-х, калі пачала друкавацца яе проза, да сярэдзіны 2000-х (калі Рублеўская перапарвалася ў адну з вызначальных асобаў у беларускім літаратурным працэсе). Гэта — адно з галоўных адрозненняў кнігі ад твораў іншых прэтэндэнтаў на прэмію Гедройца. Многія аўтары прэзентуюць пераважна творы, створаныя нядаўна. Тады як містычная аповесць, якая дала назву кнізе, створана ў 2006-м. Раман «Скокі смерці» — у 2005-м.

Але з таго часу творчасць Рублеўскай зведала пэўную эвалюцыю. Яна пачынала з асветніцкага рамантызму: «Ночы на Плябанскіх млынах» адрасаваныя беларускаму чытачу-патрыёту, дасведчанаму ў гістарычных пытаннях, які ведае, напрыклад, хто такі Фабіян Шантыр. Пазнейшыя «Авантуры Пранціша Вырвіча» былі напісаныя белетрыстычна. Нацыянальная ідэя ў кнізе прыхаваная падарожжамі ды прыгодамі. Але твор ад гэтага не страціў беларусацэнтрычнасці. Наадварот, пры ўмове перакладу кнігі і годнага піяру «Авантуры» маглі б прэзентаваць беларускі гістарычны раман за мяжой.

Аўтар гэтых радкоў мeў гонар у якасці тэст-чытача пазнаёміцца з другой часткай трылогіі пра Вырвіча, якая чакае на друк у адным з дзяржаўных выдавецтваў. Твор гэты настолькі якасны, што можа стаць пачаткам новай старонкі ў біяграфіі пісьменніцы. Таму выходзіць парадокс: на прэмію Гедройца — 2014 выстаўленыя ранейшыя творы Рублеўскай, якая цяпер піша крыху іначай.

Зрэшты, бывае, што літаратурныя прэміі ўручаюцца не толькі за канкрэтны твор, але і за ўклад у літаратуру. Які прынцып будзе дамінаваць пры ацэнцы «Ночы на Плябанскіх млынах», мы даведаемся хутка: пераможцу прэміі імя Гедройца абвесцяць 2 чэрвеня.

**Дзяніс Марціновіч**

# Гісторыя Беларусі.

# Соф'я Менская, маці двух каралёў

Піша **Алег Дзярновіч.**

У 1949 ва ўсходняй частцы Менскага замчышча, паміж сённяшнім выхадам з метро «Няміга» і Свіслаччу, былі адшуканы камяні падмурак старажытнай царквы. Гэты храм пачалі будаваць у найстаражытнейшы перыяд існавання Менскага замчышча. Найверагодней — у XII ст.

Гэты храм не меў аналагаў сярод культавых пабудоў Старажытнай Русі. Ён быў узведзены з бутавага каменю, дэфіцытнага для нашага геалагічнага рэгіёна (асноўным матэрыялам для будаўніцтва храмаў на Русі тады была плінфа, тонкая абпаленая цэгла). Усярэдзіне сцены храма былі аздобленыя вапняковымі пліткамі (вапняк — яшчэ больш дэфіцытны матэрыял у нашым рэгіёне, для дойлідства Старажытнай Русі не характэрна было абкладаць ім сцены храмаў). Нетыповымі былі і чатыры калоны, якія падтрымлівалі столь храма, і сама квадратная ў плане яго будова.

Гісторык Эдуард Загарульскі, які даследаваў падмурак храма, ставіў пытанне: чаму Менск, палітычна звязаны з Полацкім княствам, не выкарыстоўваў досведу полацкага манументальнага дойлідства пры пабудове сваёй замкавай царквы? Царква мае больш агульнага не з Полацкай Сафіяй, а, як адзначала брытанская аўтарка рэцэнзіі на кнігу Загарульскага Вера Рыч, з кафедральным саборам на Берсэі, адным з Аркнейскіх астравоў. Мінскі храм упісваецца ў раманскую архітэктурную канцэпцыю, і яго будаўнікі маглі паходзіць з заходнеславянскіх зямель, найперш з Польшчы.

Варта пагадзіцца з даследчыкамі, якія кажуць, што гісторыя старажытнарускага дойлідства не можа быць адарваная ад гісторыі палітычных адносін княстваў Русі з суседнімі краінамі.


МАЛЮНАК СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКАГА

### Палітычныя праекты

У першай палове XII ст. вакол Полацкай зямлі і яе ўжо напаўнезалежных удзелаў склалася ўнікальная сітуацыя палітычных праектаў і матрыманіяльных саюзаў. Валадар, сын менскага князя Глеба і ўнук Усяслава Полацкага, каля 1135/1136 г. ажаніўся з Рыксай, дачкой польскага князя Баляслава III Крывавуснага. Гэты шлюб мацаваў палітычны саюз Баляслава з князямі Полацкай зямлі супраць дацкага караля Эрыка II і яго хаўруснікаў — князёў кіеўскіх і наўгародскіх, нашчадкаў Уладзіміра Манамаха. Яны таксама змацавалі хаўрус дынастычным шлюбам: Эрык II быў жанаты з МальмфрыдайМсціславаўнай, дачкой кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча. (На Захадзе яго называлі другім імем — Гаральд, у гонар дзеда, караля Англіі.) Вялікай карысці ад гэтага саюзу ні Полаччына ў сваіх супярэчнасцях з Кіевам, ні Польшча ў супярэчнасцях з Даніяй не атрымалі. Смерці Эрыка II і Баляслава III прывялі да распаду кааліцыі, а потым і самога шлюбу. У канцы 1140-х Рыкса развялася з Валадаром і выйшла замуж за шведскага караля. Зрэшты, і Валадар Глебавіч не быў першым: да яго Рыкса была замужам за Магнусам Моцным, сынам дацкага караля Нільса. Кароткі палітычны і сямейны саюз Рыксы і Валадара даў плён — каля 1140 г. у іх нарадзілася дачка Соф'я.

У 1151 Валадар Глебавіч стаў менскім князем — яго брат Расціслаў Глебавіч з менскага пасаду перамясціўся на полацкі, вызваліўшы тым самым для Валадара ўдзел. І ўжо як менскі князь, Валадар Глебавіч выдаў замуж за дацкага караля Вальдэмара I сваю дачку Соф'ю. Шлюб адбыўся 23 кастрычніка 1157. Няма нічога дзіўнага ў тым, што рускія летапісы Соф'ю не згадваюць: яны вельмі няпоўныя. Затое княжну і каралеву Соф'ю добра ведаюць дацкія крыніцы, пра яе піша Саксон Граматык, указваючы, што бацька Sophiam быў русінам («patre Ruteno»). Сучаснікі, знакаміты храніст і каралева Соф'я, безумоўна, былі знаёмыя, Саксон Граматык служыў пры двары дацкага караля, як і яго бацька, і дзед.

Пры такіх актыўных дынастычных сувязях з Захадам не выглядае дзіўным і будаўніцтва, якраз за часамі Валадара Глебавіча, раманскага храма ў Менску.

### Каралева Соф'я

Соф'я Валадараўна мела статус каралевы-кансорта — гэта значыць, як жонка манарха, яна не мела паўнамоцтваў на кіраванне дзяржавай. З Вальдэмарам I яны мелі васьмярых дзяцей — двух сыноў і шэсць дачок. Абодва сыны сталі дацкімі каралямі: Кнудам VI і Вальдэмарам II. Дачка Інгеборга выйшла замуж за французскага караля, а дачка Рыкса — за шведскага. Сама Соф'я пасля смерці караля Вальдэмара ў 1182 узяла новы шлюб з ландграфам Цюрынгіі Людвікам III Пабожным. Ён быў актыўным удзельнікам крыжацкага руху, асабіста выправіўся ў Трэці крыжовы паход, удзельнічаў у аблозе Акры. На зваротным шляху Людвік захварэў і памёр на Кіпры. Але, як выглядае, з Соф'яй ён развёўся яшчэ раней. Гэты шлюб быў бяздзетным.

Соф'я вярнулася ў Данію, дзе дажыла ўдавою пры сынах. У статусе каралевы-маці Соф'я заўважна ўплывала на дацкі двор. Пасля смерці, 5 мая 1198, яе пахавалі побач з Вальдэмарам I у каралеўскай усыпальніцы ў саборы Св. Бенедыкта Нурсійскага ў Рынгстэдзе (Зеландыя).

Крыніцы сведчаць, што каралева Соф'я і пасля шлюбу не губляла сувязі з бацькам. Манах Уільям Кентэрберыйскі ў канцы XII ст. пісаў пра тое, як нехта Клімент, вяртаючыся «з Русіі», вёз дары Сафіі, каралеве данаў, якія былі пасланыя яе бацькам, каралём. Але Клімен быў схоплены ў Вінляндыі — так называлася заселенае славянамі-венедамі Памор'е. Даведаўшыся пра гэта, Соф'я звярнулася да мужа, караля Вальдэмара. І той, пасля нарады з Лундскім арцыбіскупам, выправіў супраць рабаўнікоў «разам са знатнымі людзьмі каралеўства» іх сына Кнуда, які якраз чакаў пасвячэння ў рыцары. Так Кнуд здабываў рыцарскую годнасць, баронячы гонар свайго дзеда Валадара Глебавіча. Гэты падзеі адбываліся каля 1176—1178. Саксон Граматык таксама апісвае эпізод з нападам славянскіх піратаў на пасольства караля Вальдэмара, якое вярталася з дарункамі ад цэсця-караля. У тыя гады Валадар Глебавіч дасягнуў найбольшай магутнасці. Ён вёў змаганне за дамінаванне Менска ў Полацкай зямлі, а ў 1167 нават быў полацкім князем — гаспадаром вялізнай дзяржавы. Не дзіва, што даны называлі яго каралём.

Так сувязі паміж Даніяй і Полацкай зямлёй у канцы XII ст. не спыняліся. Полацк павялічваў у Паўночнай Еўропе свой «вобразны капітал».


**Чэрап каралевы Сафіі выстаўлены на ўсеагульны агляд у саборы Св. Бенедыкта ў Рынгстэдзе.**

Дацкія навукоўцы, даследуючы каралеўскія саркафагі сабора ў Рынгстэдзе, дасталі чэрап каралевы Сафіі як адзін з найлепш захаваных. Копія гэтай дацкай рэліквіі экспануецца ў Нацыянальным музеі ў Капенгагене. Сам жа чэрап выстаўлены ў саборы Рынгстэдзе, у крыпце якой захоўваюцца парэшткі дацкіх каралёў да сярэдзіны XIV ст. Знаходка парэшткаў Сафіі Валадараўны стварае магчымасць для ДНК-экспертызы каралевы і, праз яе, роду Рагвалодавічаў. Мы не ведаем іншых пэўных парэшткаў (апроч мошчаў святой Еўфрасінні) прадстаўнікоў полацкай дынастыі — княскі некропаль не захаваўся. Гэта дае навукоўцам магчымасць атрымаць частковы ДНК-партрэт Рагвалодавічаў і быць больш падрыхтаванымі ў выпадку новых знаходак.



**Сын Сафіі Менскай Кнуд заваёўваў рыцарства ў выправе супраць венедаў-піратаў, якія захапілі падарункі Валадара Глебавіча.**

Апавяданне. **Алесь Кіркевіч**

# Застацца


Пасля фізічнай працы, вядома, і вершы лепш пішуцца

– Ну што, уя...аў? — рэзанулі ў паветры Алегавы словы. Я, мабыць, пачырванеў.

Алег пасміхнуўся. Высокі лысаваты тып сядзеў насупраць за сталом. У офісе, фактычна на паддашшы, яшчэ не паспеў разысціся кумар пасля ўчорашняй п'янкі. Па кутах ляжалі стосы нераспаўсюджанай агіткі, заламінаваныя партрэты кандыдатаў на мясцовыя выбары (Алега ў тым ліку) для зборшчыкаў подпісаў, каб не засалілі тлустымі пальцамі жыхары шматпавярховікаў спальных раёнаў, нейкія бюлетэні... На століку побач з дзвярыма красавала некалькі кубкаў з высахлымі пакецікамі гарбаты ды ніфелямі пасля кавы. Тут усё было пад рукой — офіс партыі займаў некалькі квадратных метраў. Пры кожным пераездзе, раз на 3-4 гады, гэтыя метры губляліся. Наступны офіс будзе, мабыць, больш падобны да шафы-камандор альбо вялікага сямейнага халадзільніка.

Тым не менш я ўсё ўспрыняў усур'ёз. Уя...аў... Пачуць такое ад Алега — як па твары атрымаць. Які б ні быў, а ўсё ж такі дзядзька аўтарытэтны, з салідным досведам і бэкграўндам, які, як кажуць, не прап'еш...

– А філе яны са сваім Бандэрам... Палессе наша, ажно па Сарны! — адазваўся Збышак, які сядзеў тут жа за камп'ютарам. — Прыходзь у аўторак, будзе прэзентацыя кніжкі ўспамінаў Ф... Мне спадабалася, як чытаў. Ці ты ўжо паедзеш?

– Мабыць, яшчэ буду... Добра, я пабег.

– Трымайся, — моцна паціснуў руку Алег, як быццам нічога і не сталася.

– Чэсць, — развітаўся Збышак, не адрываючыся ад манітора.

Калі выйшаў, то сярод прапушчаных званкоў знайшоў нумар Славы ды, націснуўшы «выклік», пачаў спускацца нядаўна вымытымі прыступкамі долу. Будынак разам з усімі офісамі, дарэчы, належаў Раману Васілевічу — буржую, які ў свой час пры пасярэдніцтве Алегавай партыі зваліў за мяжу. Але дабро, вядома, забываецца хутка. Разам з плошчай офіса менелі і шанцы партыі дагрукацца да каменных сэрцаў беларусаў, а шанцы Рамана Васілевіча — вярнуцца на Радзіму.

– Здарова, ты быў званіў.

– Ага, я са шпіталя выходжу на Дзяржынскага, давай каля помніка Міцкевічу праз 10 хвілін.

– Згода.

Беларусы ўсё ж такі кніжная нацыя. Чарговыя мемуары... Нарадзіліся, вучыліся, пісалі, сядзелі, працавалі школьнымі інспектарамі, а калі прыйшлі саветы — з'ехалі за мяжу. Схема-клішэ, якая з'явілася якіх 70 гадоў таму. Кніжная нацыя паэтаў і пісьменнікаў узбагачае суседнія народы. Узбагачае вуглякопамі, будаўнікамі, працоўнымі рыбзаводаў... Пасля фізічнай працы, вядома, і вершы лепш пішуцца.

– Здарова! — паціскаю руку ды прыабдымаю Славу

– Вітаю, пасядзім дзе? Маю з гадзіну, пасля да зубнога.

Слава «ўя...ў» значна раней. Будоўлі Літвы, Польшчы, Швецыі, Злучаных Штатаў... Вынік: валіза ўспамінаў, шмат фота, некалькі тату ды патрушчаныя зубы з-за дрэннай вады, здаецца, яшчэ ў Літве. Цяпер у рэдакцыі свабоднага радыё, якое працуе для несвабоднай Беларусі. Свабодны Слава.

– Ведаеш, я да медсястры, рудой такой, «лісічкі», па-беларуску, а яна...

– ...а яна: «бэнээфавец»?

– Не-е, пакаленне змянілася, аздараўляецца нацыя.

– Дзякуй Алегу!

– Ага.

Мы ішлі паўз парк, мінаючы Вечны агонь, Швейцарскую даліну, гарбаты мост з замочкамі маладажонаў, праходзячы пад яшчэ адным — старым мостам, дзе на ізаляцыі, якая шматкамі намагалася сагрэць трубы, пушчаныя верхам, было напісана ўсё пра ўсіх: «Карына — шлёндра», «Адэльск — сіла! Вася, Рома, Пеця», «Менты са....» і г.д.

– А я люблю прыязджаць у Гародню інкогніта. Ідзеш па пустой вуліцы, валіць дождж альбо снег... Сябры? А што ім званіць? Я мінулае і сам магу ўзгадаць. Так расчароўваешся толькі. Дык кажаш, Алег сказаў, што ты ўя..ў? Ды не пераймайся. Яны хутчэй уя...лі: хто ў алкаголь, хто ў сям'ю. А ты яшчэ можаш вярнуцца. Інкогніта.

Унізе вада палакала пясок ды дробныя каменьчыкі, выцягвала на ўсю даўжыню водарасці. Качкі час-почас занурвалі галовы, старанна шукаючы свой інтарэс, які цяжка было разгледзець згары. Вада не была аж занадта чыстай, хоць Гараднічанка сама па сабе не глыбокая.

Мы скіраваліся ў бок Піўнухі ля вакзала. Піўнуха была легендарнай, бо назва яе рыфмавалася з прозвішчам кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі на пазамінулых выбарах. Гэта была яе адзіная, хай і немалаважная, адметнасць. Так, ну і яшчэ яна знаходзілася непадалёк ад будынка Рамана Васілевіча, які апошнім часам побач з турфірмамі ды курсамі нямецкай мовы сабраў офісы бадай усіх апазіцыйных арганізацыяў горада ў адно ўтульнае гета альбо абшчагу калідорнага тыпу з прыбіральняй у канцы гэтага калідора.

«Недавно гостила в чудесной стране, там плещутся рифы в янтарной волне...» — у піўнусе чуўся надрыўны голас Агузаравай альбо Алегравай, вечна іх блытаю. Некалькі сталоў былі накрытыя абрусамі з жалезнымі пенальчыкамі для сурвэтак на кожным, сцены былі аббітыя вагонкай, падлога выкладзеная пліткай невыразнага колеру. Прыбіральня адсутнічала, але гэты недахоп кампенсаваўся пышным кустоўем каля выхада ды застарэлай будпляцоўкай — таксама зусім побач. Нарэшце чарга дайшла да нас.

– Класная ў вас тут музыка, — жыццярадасна падміргнуў Слава бялявай афіцыянтцы, якая, імаверна, шмат паспела ўбачыць за час працы тут.

– Ага, ах...енная! Радыё! — адрэзала фарбаваная бландзінка з маленькімі карымі вочкамі ды пайшла грэць нашыя чабурэкі.

– І сэрвіс таксама класны... — праз смех дадаў Слава ўжо значна цішэй.

За суседнім столікам сядзелі двое пралетараў: адзін у спартовым касцюме, другі ў польскіх джынсах з процьмай маланак ды замочкаў, абодва з барсеткамі. Акурат насупраць сядзеў лысы, з прыплюснутым носам тып, які перыядычна зыркаў у бок нашага століка ды круціў у руцэ пусты стапарык. Далонь была надзьмутая парафінам, ад чаго нагадвала баксёрскую пальчатку без пальцаў. Яго сусед, які сядзеў да нас спінай, быў, мабыць, не дужа гаваркі. Пацаны сумавалі.

– Ну што, за твой новы этап! — падняў Слава бутэлечку «Жыгулёўскага».

– Смяешся, хопіць ужо тых этапаў...

– Ну, ты ж мяне зразумеў. Калі едзеш?

– У сераду, можа, паглядзім.

– Чаго так сумна?

– Не хачу ехаць.

Слава перакуліў бутэльку і паставіў на стол каля букецік штучных кветак.

– Не пераймайся. Там таксама можна нешта рабіць. Па архівах капацца, на радыё запісваць казкі пабеларуску для дзетак. Ну а сем'і і двухмоўныя бываюць, чо? І дзеці нармальна вучацца, узбагачаюцца.

– Я чужы там, ты не разумееш...

– Я не разумею? Смешны, — у Славы змяніўся настрой. — Я ведаю, што такое хадзіць з закрытым ротам, бо ты ў той краіне нікога не ведаеш, табе няма з кім паразмаўляць. Таму ты маўчыш. Цэлымі днямі маўчыш. Ведаю, калі ў варшаўскай электрычцы нейкі кончаны кібіц лезе табе ў морду, бо ты размаўляеш з акцэнтам і не кібіцуеш за «Легію»... Ты ў гэтым свеце не патрэбны нікому, час ужо ўсвядоміць, дарослы.

Звычайная рэч: твой горад, вуліца, дом набываюць чароўныя рысы толькі тады, калі бачыш іх у сярэднім пяць дзён у месяц, прыязджаючы з валізай да маці, якая паспела прыгатаваць курыцу з бульбай, ды адразу абвяшчаеш ёй дату ад'езду. Тады нават твой некалі абрыдлы пакой, дзе белчырвона-белы сцяг ты даўно зняў са сцяны, можа падацца чароўнай казкай. Мяккае святло настольнай лампы, фіранкі, якія маці выпрала ды павесіла нанова, шэрагі непрачытаных кніжак, па карашках якіх хочацца правесці рукой, а такую-сякую зняць з паліцы ды пагартаць. Пакуль ты разумееш, што ўсё гэта — на пару дзён, нават на месяц, але наперадзе — немінучы ад'езд, ты верыш у казку. Шчымлівую і ад таго яшчэ больш чароўную.

– Не ведаю, што табе параіць. А яна сюды?... Зразумела. Што табе тут — сесці хіба, вопыт ёсць. Ведаеш што, — вочы Славы загарэліся зялёнымі аганькамі, — ты падыдзі да гэтых двух, во там, дзе лысы зыркае на нас, і скажы: «Рабята, піць гарэлку — поўная х...ня, інтэлігентныя людзі п'юць піва!»

Слава загагатаў і адкінуўся на жалезную спінку крэсла. Даўно я не ўжываў алкаголь, нават піва, хмель мне такі ўдарыў у галаву, а агульны стан выматаных праз унутраны канфлікт нерваў, толькі спрыяў сітуацыі. Я адсунуў пустую бутэльку «Жыгулёўскага» разам з пластыкавай белай талерачкай з халодным недаедзеным чабурэкам са слядамі кетчупу, высунуў крэсла і нетаропкай хадой, за якую мяне дражнілі яшчэ ў школе, зрабіў некалькі крокаў у бок суседняга століка.

– Пацаны, піць гарэлку — х...ёва, — і пасля паўзы дадаў: — А расейская мова — для пі...саў...

Апошнім, што я паспеў пачуць з радыёкалонак, быў радок Агузаравай, а можа Алегравай, вечна іх блытаю: «Меня ты поймешь, лучшей страны не найдёшь!»

**Алесь Кіркевіч**

Нарадзіўся ў 1989-м у Гродне. Ягоны дзед Аляксандр быў вядомым у Гродне краязнаўцам. Алесь з'яўляўся намеснікам старшыні «Маладога фронту». За ўдзел у Плошчы быў асуджаны на 4 гады зняволення, але вызвалены ў верасні 2011-га.

## МАСТАЦКАЯ ГІМНАСТЫКА

### Кубак свету ў Мінску

30 мая — 1 чэрвеня ў Палацы спорту (пр.Пераможцаў, 4) пройдзе Кубак свету па мастацкай гімнастыцы. У сталіцу Беларусі прыедуць найлепшыя спартсменкі свету.

## ФУТБОЛ

### «Тарпеда» — «Дынама»

**31 мая — 1 чэрвеня** адбудуцца гульні 10 тура чэмпіянату Беларусі па футболе. **У суботу** гуляюць:
«Мінск» — «Гомель»;
«Нафтан» (Наваполацк) — «Слуцк»;
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Дынама» (Мінск) — цэнтральная сустрэча тура.
**У нядзелю:**
«Шахцёр» (Салігорск) — «Белшына» (Бабруйск);
«Дняпро» (Магілёў) — БАТЭ (Барысаў);
«Нёман» (Гродна) — «Дынама» (Брэст).

## ІМПРЭЗЫ

### «Зялёныя сняткі»



**1 чэрвеня ў Магілёве** ладзяцца «Зялёныя святкі». Месца правядзення — этнаграфічны комплекс у Зялёным Гаі (мікрараён Спадарожнік). Арганізатары запрашаюць паўдзельнічаць у траецкім абрадзе завівання бярозак і кумлення, які зладзяць носьбіты традыцыі з Бялыніцкага раёна, у традыцыйных гульнях і танцах,паслухаць абрадавыя і лірычныя спевы, паўдзельнічаць у майстар-класах па традыцыйных рамёствах і павучыцца вырабу страў народнай кухні.

### Рок-паэзія «Дзеяслова»

**3 чэрвеня ў 19.00 у паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** адбудзецца музычная прэзентацыя Анталогіі перакладу рускай рок-паэзіі ў часопісе «Дзеяслоў». Удзельнічаюць: Вольга Гронская, Уладзімір Дрындрожык, Фёдар Жывалеўскі, Анатоль Івашчанка, Юры Несцярэнка, Барыс Пятровіч, Арцём Сітнікаў, Раман Яраш. У імпрэзе прагучаць пераклады песняў Андрэя Макарэвіча, Барыса Грэбеншчыкова, Віктара Цоя, Ягора Летава, Юрыя Шаўчука, Эдмунда Шклярскага і інш. Уваход вольны.

## КАНЦЭРТЫ

### Пятрас Вішняўскас

**30 мая ў малой зале к/з «Мінск»** — канцэрт славутага літоўскага джазмэна Пятраса Вішняўскаса. Білеты — ад 150 тысяч.

### «Сад»

**31 мая ў клубе «Салтайм» (пр. Незалежнасці, 131-1)** — канцэрт берасцейскага гурту «Сад».

## АДПАЧЫНАК

### Велаэкскурсіі

**Суполка «Менскі велашпацыр»** запрашае на велаэкскурсіі «Мінск графа Чапскага» (29 мая) і «Мінскія хіпаны» (30 мая). Пачатак велавандровак — у 18.30 ад велапраката «Адпачынак» на набярэжнай Свіслачы насупраць Траецкага прадмесця. Загадзя запісацца можна па тэлефоне +375 (29) 704-00-18

## ВЫСТАВЫ

### «Скульптура: XXI»

**У Палацы мастацтваў (Казлова, 3)** працуе выстава сучаснай беларускай скульптуры «Скульптура: XXI». Усе прадстаўленыя ў экспазіцыі творы створаныя ў новым — XXI — стагоддзі. Практычна ўсе беларускія скульптары, якія зараз актыўна працуюць, прэзентуюць тут свае творы. Такім чынам, выстава павінна наглядна адлюстраваць самыя сучасныя тэндэнцыі і напрамкі беларускай скульптуры.

### «Беларусы. 100 гадоў жыцця»

**З 28 мая ў галерэі «Акадэмія» (вул. Сурганава, 14)** працуе фотавыстава ў межах культурна-даследчага праекта «Беларусы. 100 гадоў жыцця». Выстава — вынік экспедыцый, зробленых за тры месяцы. У экспазіцыю ўваходзіць больш за 50 прац: гэта фотакопіі здымкаў этнографа і фатографа пачатку XX ст. Ісаака Сербава і працы студэнтаў Акадэміі мастацтваў, выкананыя падчас вандровак па тых жа мясцінах.

## ТЭАТРЫ

### 29 мая

**Беларускай драматургіі** — Нязваны госць
**Купалаўскі** — Хам
**Оперы і балета** — Вечар рамансаў
**Юнага гледача** — Аднакласнікі






### 30 мая

**Купалаўскі** — Сымон-музыка

### 31 мая

**Беларускай драматургіі** — Білінгвы
**Купалаўскі** — Местачковае кабарэ
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху

### 1 чэрвеня

**Купалаўскі** — Местачковае кабарэ
**Лялек** — Чырвоны Каптурок

### 2 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі

### 3 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Купалаўскі** — Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл
**Юнага гледача** — Сакрэт сапраўднага сяброўства

### 4 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Белы анёл з чорнымі крыламі
**Купалаўскі** — Сымон-музыка
**Юнага гледача** — Сакрэт сапраўднага сяброўства

## КІНО

### Работа над памылкамі

Людзі Х: Дні мінулай будучыні
**Жанр:** фантастыка, фэнтэзі, баявік, прыгоды
**Рэжысёр:** Баян Сінгер
**У ролях:** Х'ю Джэкман, Джэймс МакЭвай, Майкл Фасбендар, Джэніфер Лоўранс, Іэн МакКелен, Патрык Сцюарт, Нікалас Холт, Элен Пэйдж, Холі Беры
ЗША, Вялікабрытанія, 131 хв.

У недалёкай будучыні адбылася вялікая вайна супраць мутантаў. Прызначаныя для іх вынішчэння Вартаўнікі (робаты, створаныя пры дапамозе ўнікальнай ДНК мутанткі Містык) выйшлі з-пад кантролю і забіваюць не толькі мутантаў, але і людзей. Адзіная надзея пазбегнуць такога павароту — змена падзей у мінулым, лічаць прафесар Ксаўе і Магнета. З дапамогай мутанта Кіці Прайд у мінулае адпраўляецца Расамаха да яшчэ маладых Чарльза (Ксаўе) і Эрыка (Магнета), каб змяніць ключавую падзею, што прывяла да вайны: забойства Траска, які прыдумаў робатаў. А таксама змяніць лёс яго забойцы, мутанта Містык, бо праз гэта яна была зняволеная, і карпарацыя Траска атрымала яе ДНК.

Фільм з'яўляецца сіквелам адразу трох частак знакамітай франшызы пра людзей Х («Людзі Х: Апошняя бітва» (2006), «Людзі Х: Першы клас» (2011), «Расамаха: Бессмяротны» (2013)) і зняты па матывах аднайменнага комікса. Надзвычай насычаны сюжэт сёмага фільма сусвету Marvel пра мутантаў аб'яднаў найлепшых акцёраў, сапраўднымі зоркамі сталі МакЭвай і Фасбендар, якія нядаўна далучыліся да праекта ў ролях маладых прафесара Ксаўе і Магнета адпаведна. Адна з найлепшых частак, адначасова дынамічная і лірычная.

Цікава, што сіквел адмяняе падзеі, якія адбываліся ў частках «Людзі Х: Пачатак. Расамаха» і «Расамаха: Бессмяротны», а за канцэпцыю падарожжаў у часе ўзятая цяпер папулярная ў фізіцы тэорыя струн.

**Настасся Уласава**



# Дзесяць фактаў пра генерала Войцеха Ярузэльскага

25 мая, пасля працяглай хваробы, ад раку памёр былы прэзідэнт Польшчы Войцех Ярузэльскі. Яму было 90 гадоў. Нядаўна ён перанёс інсульт. А апошнія дні знаходзіўся ў вайсковым шпіталі ў Варшаве.

## 1. Пахаваў бацьку, загарнуўшы ў газету «Праўда»

Родам Ярузэльскі быў з вёскі Куруў Люблінскага ваяводства. Яго бацька быў землеўласнікам. У 1939 сям'я пераехала ў Літву. Адразу пасля прыходу саветаў Ярузэльскіх выслалі ў Сібір. Там, у Бійску, у 1942-м памёр бацька Войцеха, Уладзіслаў. Генерал успамінаў, што там не было ні труны, ні савана, каб пахаваць чалавека як след. Яму давялося абгарнуць цела бацькі газетай «Праўда».

## 2. З лагера — разведку

Праз год Ярузэльскі выйшаў з лагера і запісаўся ў 1-ю польскую пяхотную дывізію імя Касцюшкі, сфармаваную ў СССР. Пачаўшы, пасля пяхотнага вучылішча, камандзірам узвода аўтаматчыкаў, у студзені 1945 ён быў ужо намеснікам начальніка штаба палка па выведцы. Выведка — гэта вайсковы спецназ, цесна звязаны са спецслужбамі. Працу па гэтай лініі Ярузэльскі працягваў і пасля вайны, калі ўдзельнічаў у ліквідацыі антысавецкіх узброеных аддзелаў ВіН і УПА.

## 3. Верыў у сацыялізм

У 1947 Ярузэльскі, нашчадак шляхецкага роду, стаў камуністам, уступіў у Польскую рабочую партыю. Як ён пісаў пасля, шчыра верыў, што сацыялізм — «добрая рэч», а польская дзяржаўнасць, лічыў Ярузэльскі, на тым этапе можа захавацца толькі ў саюзе з Масквой. Ён дасягнуў кар'ерных вышынь — стаў генералам арміі, міністрам абароны.

## 4. Не пусціў савецкія танкі

Самым цяжкім для Ярузэльскага і ўсёй Польшчы стала ўвядзенне ваеннага становішча ў верасні 1981. Лідары «Салідарнасці» былі інтэрнаваныя, на вуліцах стаялі танкі. Большасць гісторыкаў сёння лічыць, што гэтым Ярузэльскі пазбег «братняй дапамогі» СССР. Каля мяжы з Польшчай стаяла напагатове 15 савецкіх дывізій — іх уваход мог бы справакаваць «другі Афганістан» у цэнтры Еўропы.

## 5. Зваршчык

Такая ў Ярузэльскага была мянушка, бо ён усё жыццё насіў цёмныя акуляры. Мала хто ведаў, праўда, што прычынай была «снежная слепата»: у маладосці ён спаліў рагавіцу вачэй нясцерпным бляскам снегу на краснаярскім лесапавале.

## 6. «Які я маршал?»

Калі Ярузэльскаму прапанавалі званне маршала, ён адмовіўся. «Які я маршал? — сказаў генерал, — маршалы ў вайну камандавалі арміямі, а я толькі ўзводам коннай разведкі». Маршала Брэжнева, які ў вайну камандаваў палітаддзелам, такая дробязь не спыняла.

## 7. Круглы стол

Ярузэльскі зрабіў яшчэ адзін нетыповы для прадукта сталінскай сістэмы ўчынак: арганізаваў круглы стол з лідарамі апазіцыі і паступовую перадачу ўлады дэмакратычным сілам. Ён быў апошнім кіраўніком камуністычнай Польшчы і першым кіраўніком Польшчы новай. Нават з Валенсам, які ў часы ваеннага становішча таксама трапіў у вязніцу, генерал не варагаваў. Валенса адведваў яго ў шпіталі.

## 8. «Як там Ярузэльскі?»

Такое пытанне задаў папа Ян Павел II Леху Валенсу, калі той наведваў Ватыкан. «Нібы няма іншых палякаў у Польшчы!» — пакрыўдзіўся тады Валенса. А Ян Павел II, які таксама шмат зрабіў для вызвалення Польшчы ад савецкага панавання, разумеў ролю ў гэтым працэсе Ярузэльскага, які выявіўся ўсё ж больш палякам, чым камуністам.

## 9. Развод

Скандал у сям'і Ярузэльскага здарыўся ў пачатку 2014. Яго жонка Барбара, з якой генерал пражыў больш за 50 гадоў, раптам абвясціла, што пакіне яго. Пані Барбара прыраўнавала 90-гадовага Ярузэльскага да... сядзелкі, якая даглядала хворага генерала.

## 10. Апошні

Ярузэльскі быў апошнім жывым кіраўніком краінаў Варшаўскага блока.

**Падрыхтаваў Сяргей Мікулевіч**



## Апошні дыктатар, першы прэзідэнт

Нават ягоныя палітычныя апаненты, якіх ён зняволіў пасля ўвядзення ваеннага становішча, прызнаюць, што гэта быў не толькі камуністычны дыктатар, але і палітык вялікага фармату, які ажыццявіў у Польшчы ўзорны і бяскроўны пераход ад камуністычнай сістэмы да дэмакратыі. Некалькі дзясяткаў забітых у сутычках з міліцыяй пратэстоўцаў падчас ваеннага становішча — гэта, як цяпер падкрэслівае шмат хто з польскіх каментатараў, непараўнальная цана з той, якую сёння плацяць украінцы за спробу рэформы сваёй палітычнай сістэмы.

Яму было наканавана пражыць яшчэ амаль чвэрць стагоддзя пасля свайго палітычнага сыходу. Нягледзячы на тое, што ў дачыненні да яго ў дэмакратычнай Польшчы былі адкрытыя судовыя справы і шмат хто публічна ганьбіў ягоную асобу, Ярузэльскі ніколі публічна не пашкадаваў пра сваё рашэнне «кінуць» сацыялізм дзеля дэмакратыі. Гэта, што ні кажы, прыкмета палітыка вялікага фармату. Нават калі ў гэтым фармаце знайшлося месца і на цёмныя ды страшнаватыя закуткі..

**Ян Максімюк, Радыё «Свабода»**

### Абмеркаванне на nn.by

**Палякам пашанцавала**

Палякам пашанцавала з Ярузэльскім. Увядзенне ваеннага становішча ў той час было ці не адзінаю магчымасцю абароны ад савецкага ўварвання... Вечная памяць патрыёту Польшчы.

**Кнехт**

**Nie bohater, a zdrajca**

Пасля вайны Ярузельскі займаўся фізічнай ліквідацыяй польскіх патрыётаў з Арміі Краёвай. Усё сваё жыццё верна служыў савецкім акупантам. Быў марыянеткай Крамля ў Польшы ў 1980-х. Гэта здраднік і злачынца, які, дарэчы, так і не быў пакараны ў так званай «вольнай» Польшчы.

**Michał**

**Апошні зубр**

Сыходзяць апошнія «зубры» XX стагоддзя. Пры ўсёй неадназначнасці генерал Ярузэльскі быў дзяржаўным дзеячам. Ярузэльскі служыў Польшчы, той Польшчы, якую лічыў сваёй. Калі ваяваў супраць нацыстаў у час вайны. Пасля вайны ваяваў не з АК, а з ВіН, баевікі якой, дарэчы, знішчалі беларускае насельніцтва на Беласточчыне. Ён не быў марыянеткай Крамля.
Можна сказаць, што калі Венгрыя была самым вясёлым баракам у сацыялістычным лагеры, то Польшча — самым свабодным.

**Правінцыял**

**«Вялікі чалавек эпохі Здрады»**

Генерал Ярузэльскі, бясспрэчна, быў асобай сярод камуністычнай шэрасці ва ўсім савецкім блоку. Выхаваны ў айцоўмарыянаў, ён, аднак, стаў бязбожнікам і шчыра паверыў у камуністычную ўтопію. Калі ў 1966 годзе хавалі яго маці, шчырую каталічку і антысаветчыцу, ён, тагачасны начальнік генштаба Войска Польскага, на пахаванне прыехаў, але ў касцёл не зайшоў, апошняга развітання з маці не адбыў. Яго дачка, Моніка, наогул хацела памяняць прозвішча, бо саромелася за свайго тату. Валенса сказаў пра яго, бадай што, дакладна: «Вялікі чалавек эпохі Здрады».

**Лявон Баршчэўскі**



# Павел Шыпук, першы спікер савета рэспублікі

На 66-м годзе жыцця памёр Павел Шыпук, першы спікер савета рэспублікі, былы старшыня Гомельскага аблвыканкама.

Павел Шыпук нарадзіўся 1 мая 1949 года ў вёсцы Опаль Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут (БНТУ). Ад 1972 да 1994 працаваў на «Гомельшкле».

Пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі быў прызначаны старшынёй Гомельскага аблвыканкама. Кіраваў вобласцю ў 1994—1997, пасля чаго быў абраны ў новастворany савет рэспублікі. Шыпук быў ягоным першым старшынёй.

Калі казалі, што парламент нелегітымны, то Шыпук адказваў, што «ў нелегітымны парламент легітымныя дэлегацыі не ездзяць».

**АГ**

# Барыс Аліфер, аператар «Тутэйшых»

22 мая на 77-м годзе жыцця ў Мінску памёр аператар-пастаноўшчык, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Барыс Аліфер.

Ён нарадзіўся ў Омску (Расія), але з 1968-га жыў у Мінску, працаваў на «Беларусьфільме», здымаў гульнявыя і дакументальныя фільмы. Барыс Аліфер скончыў Усесаюзны інстытут кінематаграфіі.

З фільмаў, якія ён здымаў, найбольш вядомая кінаэпапея «Полымя» (рэжысёр Віталь Чацверыкоў), з тэлефільмаў — серыялы «Руіны



страляюць» (Дзяржаўная прэмія БССР у 1974 годзе) і «Дзяржаўная мяжа» (тры першыя серыі).

Быў аператарам фільма «Тутэйшыя», які ў 1993-м паводле п'есы Янкі Купалы зняў Валерый Панамароў.


26 мая ў Мінску прайшла магутная залева. Затапіла 11 вуліц.


На выпускную лінейку ў гімназіі №5 імя Лесі Украінкі ў акупаваным Расіяй Севастопалі старшакласнікі і выкладчыкі прыйшлі ва ўкраінскіх нацыянальных строях.


Дзяржаўны сцяг з яблыкаў, агуркоў і цыбулі зрабілі на конкурсе БРСМ «Уладар сяла».


У «зубра Валеру» прыбралі свайго сабаку мінскія прыкалісты.

Сервіроўка стала для Уладзіміра Пуціна ў часе афіцыйнага абеду ў кангрэс-цэнтры ў Шанхаі.






## Анекдоты і жарты

* * *

Дыялог у Адэсе:

— Сарачка, так твой Моня такі педэраст?!

— Ды не педэраст, а сепаратыст!

— А што, ёсць розніца?

* * *

Жыхары Крыма пытаюцца ў Пуціна:

— Як жа так, дзе абяцаныя вамі турысты з Расеі?

— Нам давялося іх адправіць у Данецк і Луганск.

* * *

— Афіцыянт, дзе лыжка? Чым я буду есці суп?

— Гэта крэм-суп, яго ўціраюць.

* * *

Расейскія кампазітары пачалі ствараць песню пра Беларусь і Украіну, бо раптам з'явілася вельмі складаная рыфма: Лукашэнка — Парашэнка.

* * *

Прачынаюся раніцай у кветках — рамантыка! Азірнулася: блін, клумба!

* * *

Я заўсёды вучуся на памылках людзей, якія кіраваліся маімі парадамі.

* * *

Чым таннейшыя казінакі — тым даражэйшае лячэнне зубоў.

* * *

Едзе мужчына ў аўтобусе ды лаецца:

– Што за моладзь пайшла! Нахабныя, нявыхаваныя! Самі едуць седзячы, месца саступіць не могуць!

Кандуктар пытаецца ў яго:

– Чаго вы абураецеся? Вы ж седзіце!

– А жонка ж стаіць!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Просім паноў Падпісчыкаў «Нашай Нівы»**, каторыя падпісаліся толькі на першую палавіну 1914 года, чым хутчэй аднавіць падпіску, каб не было перарыву ў высылцы газеты.

**«НН». №20. 1914.**

**Масоны супраць Лукашэнкі.** На думку пісьменніка Эдуарда Скобелева, светам кіруюць масоны («Еўрасаюз — гэта масонскае ўтварэнне), цяпер масоны прызначаюць прэзідэнтаў ды прэм'ер-міністраў («Чаму невядомыя людзі сталі ва ўрадзе Пуціна?»). Адзіная краіна, дзе масоны пакуль не дарваліся да ўлады, — Беларусь: «Сыдзе Лукашэнка — будзе страшна». Такія ідэі выкладаюцца на палітінфармацыях супрацоўнікам Адміністрацыі прэзідэнта.

**«НН». №20. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 27.30 26.05.2014.
Замова №1983.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 14020

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12